ВЭТ. ДОКТАР І. К. ЕРКОВІЧ



# ДАВЕДНІК
## ПА НЕЗАРАЗЬЛІВЫХ ХВАРОБАХ СЬВІНЕЙ

ДВБ
СЕЛЬГАС-
СЭКТАР
1932

ВЭТ. ДОКТАР
І. К. ЕРКОВІЧ

# ДАВЕДНІК ПА НЕЗАРАЗЬЛІВЫХ ХВАРОБАХ СЬВІНЕЙ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
СЕЛЬГАССЭКТАР
МЕНСК — 1932

## ПРАДМОВА

Пастанова XVI зьезду ЎсеКП(б) і наступныя рашэньні ўраду і партыі зьвяртаюць надзвычайна вялікую ўвагу справе пад'ёму і рэканструкцыі жывёлагадоўлі ў нашай краіне. Сьвінагадоўлі, у прыватнасьці, прызначана вырашыць адну з актуальнейшых проблем сёнешняга дня — мяса-тлушчавую проблему. Зусім зразумела, што сьвінагадоўчыя гаспадаркі справяцца з ускладзенай на іх задачай толькі пры правільнай організацыі гаспадаркі, пры добра пастаўленым доглядзе за сьвіньнямі, пры добрым вэтэрынарна-санітарным стане іх. Вялікія страты жывёлы, што наглядаюцца ў сьвінагадоўчых гаспадарках ад эпізоотыі і ад незаразьлівых хвароб, прымушаюць зьвярнуць у сучасны момант асаблівую ўвагу на вэтэрынарна-санітарны стан гэтых гаспадарак.

Гэты даведнік па незаразьлівых хваробах сьвіней мае на ўвазе сярэдні і ніжэйшы вэтпэрсонал сьвінагадоўчых гаспадарак соц. сэктару. Далёка не ахватваючы ўсе незаразьлівыя

хваробы, ён зьмяшчае ў сабе кароткае апісаньне найчасьцей сустракаючыхся пераважна ўнутраных хвароб сьвіней.

Пры гэтым апісаньне паасобных хвароб робіцца па адным пляне: пералік галоўных прычын узьнікненьня хваробы, асноўныя яе клінічныя адзнакі, дыягноз, прадказаньне і лячэньне, з указаньнем профіляктычных мерапрыемстваў і дадаткам найбольш ужывальных рэцэптаў.

У даведнік увайшлі часткова свае назіраньні, якія накапіліся за 16 год практычнай работы, а галоўным чынам былі скарыстаны наступныя дапаможнікі:

1) „Частная патология и терапия внутренних болезней дом. жив." проф. Фридбергер и Френер, пер. Светлова.

2) „Частная патология и терпаия внутренних болезней дом. жив." Hutyra i Marek, том II и III.

3) „Краткий курс частной пат. и терапия внутренних болезней дом. жив." проф. К. М. Гольцман.

4) „Краткий курс внутренних болезней" А. Ф. Эккер, изд. 1929 г.

5) „Частная патология и терапия дом. жив.," проф. Е. Евтихиев, изд. 1931 г.

6) „Болезни свиней," проф. А. Н. Уранов.

7) „Курс кожных болезней дом. жив.," проф. Н. Н. Богданов.

8) Сборник 1175 рецептов берлинских ветеринарных клиник и рецептура проф. д-ра О. Регенбоген і д-ра В. Гинц.

9) Руководство по фармакологии Френера.

Улічваючы магчымасьць недакладнасьцяй і ўпушчэньняў, аўтар усе зробленыя папраўкі і заўвагі прыме з падзякаю.

Разам з тым аўтар выказвае сваю падзяку профэсару Беларускага вэтэрынарнага інстытуту В. І. Ламскаму за ўказаньні і прагляд ім гэтага даведніка.

Аўтар.

---

# I. ХВАРОБЫ АБМЕНУ МАТЭРЫИ

## Атлушчэньне

**Этыолёгія.** Асноўнай прычынай атлушчэньня служыць доўгае і сытнае кармленьне. Ужываньне жывёльным організмам пажыўных матэрый, як вядома, стаіць у сувязі з інтэнсыўнасьцю процэсаў абмену, з энэргічнасьцю акісьляльных процэсаў, якія залежаць у сваю чаргу пераважна ад мускульнай работы. Значыцца, акрамя збытковага кармленьня, атлушчэньню садзейнічае таксама недастатковы рух жывёлы на сьвежым паветры. Акрамя таго, некаторыя скорасьпелыя пароды маюць прыродныя схільнасьці да атлушчэньня, у выніку чаго ў іх нават пры ўмераным кармленьні назіраецца сільнае адкладваньне тлушчу.

**Сымптомы.** Калі атлушчэньне жывёлы перайшло пэўныя межы—яго можна пазнаць з першага погляду. Падскурная клятчатка, якая зьяўляецца галоўным месцам адкладваньня тлушчу, дасягае значнай таўшчыні. Атлушчэлыя сьвіньні млявыя, лёгка стамляюцца пры

рухах і становяцца няпрыгоднымі для пашавага ўтрыманьня. Дыханьне робіцца частым, павярхоўным. Сардэчны штуршок аслаблен, дзякуючы таму, што масы тлушчу затрудняюць рух страўніка і кішак. У рэзкіх выпадках разьвіваюцца расстройствы страваваньня. Апэтыт робіцца капрысным, паменшаным, зьяўляецца нахіл да запораў. Часамі тлушчавыя масы, што адкладваюцца, затрудняючы дзейнасьць органаў грудной поласьці, абумоўліваюць нечаканую сьмерць жывёлы ад ацёку лёгкіх або параліча сэрца. Пры гэтым перад сьмерцю наглядаецца цыяноз сьлізістых абалонак. У сьвінаматак, у зьвязку з атлушчэньнем, памяншаецца і нават можа зусім зьнікнуць пладавітасьць. Парасяты, што нараджаюцца ад атлушчэўшых сьвіней, слабыя, млявыя, страдаюць агульным расстройствам страваваньня, іншы раз зусім ня могуць хадзіць, а калі і рухаюцца, то цяжка, пры чым частка іх прападае хутка пасьля апаросу.

**Дыягноз.** Распазнаваньне атлушчэньня не становіць асаблівых затрудненьняў.

**Прогноз.** Калі прычыны атлушчэньня не ўстаронены, то, як указана, пакупова разьвіваюцца расстройствы дыханьня і крываабароту, якія абумоўліваюць у рэзультаце сьмерць ад параліча сэрца або ад задушэньня. Пры ўмераным кармленьні і дастатковым моцыёне атлушчэлыя сьвіньні могуць жыць доўга.

Лячэньне. Для лячэньня атлушчэлых сьвіней належыць паступова памяншаць колькасьць корму, які даецца ім, і адначасова ўзмацняць моцыён. Пры гэтым памяншэньне рацыёну належыць пачынаць з вугляводаў. Для палепшаньня дзейнасьці кішочніка, мэтазгодна дадаваць да корму штучную карлсбадскую соль, дачу якой пры наступленьні паносу трэба спыніць. Пры запоры можна назначыць глаубэравую соль.

1. *Rp.* sol. Carol. fact 5,0

D. S. Адзін раз у дзень на прыём з кормам на працягу 1-2 тыдняў.

2. *Rp.* Natr. sulfur. 30,0

D. S. На адзін прыём слабіцельнае.

3. *Rp.* Aloes 3,0

D. S. З мёдам на адзін прыём пры запоры. Унутранае.

## РАХІТ.

**Этыолёгія.** Рахіт або англійская хвароба сустракаецца сярод жывёлы на працягу першага году іх жыцьця, часьцей за ўсё ва ўзросьце 5—8 месяцаў. Рахітам хварэюць парасяты ўсіх парод, але асабліва часта рахіт сустракаецца сярод скарасьпелых парод, або іх помесяй. У дзікіх сьвіней захворваньне рахітам не назіраецца. Прычыны ўзьнікненьня рахіту ў пара-

сят увогуле мала вывучаны. Як відаць, тут мае значэньне, як схільнасьць да рахіту асобных індывідуумаў, так і цэлы рад пагрэшнасьцяй ва ўтрыманьні і кармленьні. З апошніх можна тут назваць: утрыманьне сьвіней у вільготных, душных, якія дрэнна праветрываюцца, сьвінарніках, скучанае трыманьне жывёлы, недастатковасьць рухаў на сьвежым паветры і сонечным сьвятле; нерацыянальнае кармленьне, асабліва ў сэнсе недастатковай колькасьці ў корме солей, вапны, фосфару і вітамінаў, страўнікова-кішочныя расстройствы і інш.

**Сымптомы.** Захворваньне заключаецца ў тым, што не адбываецца дастатковага адкладаньня вапняковых солей у тых костных тканках, якія нанава ўтвараюцца, у выніку чаго косьці астаюцца мяккімі, гнуткімі.

Першыя прызнакі рахіту разьвіваюцца іншы раз так слаба і паступова, што могуць застацца незаўважанымі. Звычайна ў пачатку хваробы парасяты становяцца млявымі, больш ляжаць; калі іх прымушаюць падняцца—устаюць неахвотна, стоячы часта пераступаюць нагамі, хада напружаная, апэтыт паменшаны, смак сапсаваны: яны п'юць жыжку ад гною, грызуць карыты. Разам з тым часамі наглядаецца панос. У далейшым адбываюцца паступовыя зьмяненьні спачатку трубчатых, а потым і плоскіх касьцей. Эпіфізы касьцей канцавін уздуваюцца, робячы

ўражаньне апуханьня суставаў, прычым косьці ня вытрымліваюць цяжару тулава і скрыўляюцца. Падобныя зьмяненьні, якія назіраюцца ў касьцях тулава і галавы, цягнуць за сабою скрыўленьне пазваночніка, ненормальныя зьмяненьні формы галавы і іншыя скрыўленьні шкілету. Мускулатура слаба разьвітая, мяккая, друзлая. Парасяты адстаюць у росьце.

**Дыягноз**. Дакладнае распазнаваньне рахіту магчыма пры выяўленьні пэўных зьмяненьняў касьцей. У пачатковай-жа стадыі рахіт можна зьмяшаць з цяглічным раматузам або косным тубэркулёзам, але пры цяглічным раматузе, у адрозьненьне ад рахіту, прызнакі хваробы звычайна хутка зьнікаюць пры паляпшэньні ўмоў утрыманьня і дачы ўнутр саліцылавых прэпаратаў. Костны-ж тубэркулёз у сьвіней, хаця і выклікае дэформаваньне паасобных касьцей і суставаў, але не вязде да скрыўленьня канцавін.

**Прогноз**. У большасьці выпадкаў рахіт мае хронічны характар, цягнучыся цэлымі месяцамі. Пры дрэнным утрыманьні рахітычных парасят, апошнія пры паяўленьні схуданьня і малакроўя нярэдка гінуць. Акрамя таго аслабленая рахітам супраціўляльнасьць организму да розных зьнешніх раздражняльнікаў абумоўліваецца ўзьнікненьнем у парасят розных інфэкцыйных процэсаў.

Лячэньне. Для разьвядзеньня зусім здаровых сьвіней неабходны старанны падбор племяннога стада. Племянныя жывёлы павінны ўладаць магутным моцным касьцяком, і ня быць схільнымі да захворваньня рахітам. Жывёл са слабым касьцяком, а таксама перахварэўшых рахітам, каб перасякчы перадачу патомству схільнасьці да гэтай хваробы, патрэбна выбракаваць з племяннога стада. Прымаючы пад увагу, што захварэньне рахітам наглядаецца амаль выключна сярод парасят, якіх трымаюць у цеснаце, а асабліва сярод парасят асеньняга апаросу, неабходна паклапаціцца аб стварэньні нормальных умоў утрыманьня і кармленьня сьвіней. Памяшканьні павінны быць чыстыя, прасторныя, з дастатковым сьвятлом, паветрам, з добрай вэнтыляцыяй.

У добрую сонечную пагоду сьвіней належыць трымаць на вольным паветры. Нізінныя балоцістыя месцы не павінны скарыстоўвацца для пашы. З прычыны таго, што недастатковае паступленьне солей служыць адным з этыолёгічных момантаў рахіту—неабходна дабаўляць да корму крэйду 2-5,0, неачышчаную касьцяную або рыбную муку 10-25,0, або неачышчаны фосфарна-кіслы кальцы. Рацыён рэкамэндуецца састаўляць з не кіпячонага кароўяга малака, атрыманага ад здаровых кароў, з дабаўленьнем да яго заваранай гарачай вадою ячнай, або аўсянай

мукі, варанай бульбы або макухі. Для разнастайнасьці і ўвядзеньня ў організм вітамінаў мэтазгодна разам з тым даваць моркву і капусту. З мэдыкамэнтаў незазмянімым пры рахіце сродкам зьяўляецца рыбны жыр, які мае ў сабе антырахітычны вітамін. У залежнасьці ад ступені разьвіцьця хваробы неачышчаны рыбны жыр даецца на працягу ад 1 да 3-х месяцаў, пры чым пры паяўленьні паносу дача рыбнага жыру павінна быць часова спынена. Пры добрых умовах утрыманьня і кармленьня, а таксама пры рэгулярнай дачы рыбнага жыру, паляпшэньне наступае ўжо на працягу першага месяца. У выпадках выражанага скрыўленьня касьцей, хворых больш мэтазгодна скарыстаць на мяса.

1. *Rp.* Sal. Calcium chloratum 10% 200,0.
D. S. Па сталов. лыжцы 2 разы ў дзень з кормам

3. *Rp.* Sal. car. facti 100,0
D. S. Па чайнай лыжцы ў корм.

2. *Rp.* Ol. jecoris aselli 300,0
Calcii phosphor puris 15,0
M. D. S. Па аднэй сталовай лыжцы 2 разы ў дзень на працягу 1-2 месяц ў. Перад ужываньнем узбоўтваць.

## РАЗЬМЯКЧЭНЬНЕ КАСЬЦЕЙ—ОСТЭОМАЛЯЦЫЯ

**Этыолёгія.** Разьмякчэньне касьцей часьцей за ўсё наглядаецца сярод дарослых і культурных парод сьвінаматак. Прычыны гэтага захворваньня ня вывучаны, але сустракаецца яно ў пера-

важнасьці ў мясцовасьцях з няспрыяючымі глебавымі ўмовамі, асабліва ў сухія гады ў сьвінаматак у пэрыод цяжарнасьці і лактацыі.

**Сымптомы.** Пры остэомаляцыі сформаваная костная ткань траціць солі кальцыя, адбываецца абядненьне організму вапнай. Захворваньне характарызуецца патаненьнем і мяккасьцю касьцей, а таксама слабасьцю мускулатуры, асабліва тазавых і бядровых цягліц, што абумоўлівае зьяўленьне кульгавасьці, парэзаў і пераломаў касьцей. Апэтыт у пачатку хваробы паменшан і капрысны. Сьвіньні больш ляжаць, калі-ж іх прымушаюць уставаць, то яны асьцярожна перасоўваюцца і хутка зноў кладуцца. У далейшым хворых сьвінаматак удаецца прымусіць падняцца на ногі з вялікімі цяжкасьцямі, прычым слабае мэханічнае ўзьдзеяньне і нават неасьцярожныя рухі могуць прывесьці да надлому і пералому касьцей. У некаторых выпадках да сказанага далучаецца хваравітая прыпукласьць суставаў, галоўным чынам вянечнага і скакальнага. Апэтыт зусім траціцца, разьвіваецца катаральны стан страўнікова-кішочнага тракту. Хворыя худзеюць і пры зьявах поўнага схуданьня гінуць.

**Дыягноз.** Ход хваробы остэомаляцыі амаль заўсёды павольны. Пры гэтым часамі разьвіцьцё хваробы як-бы спыняецца, заўважаецца паляпшэньне, пасьля якога вышэйадзначаныя сымптомы захворваньня выяўляюцца ў больш

рэзкай форме. Остэомаляцыю можна зблытаць з раматузам. Аднак, пры раматузе хвароба працякае заўсёды больш быстра і канчаецца больш шчасьліва. Для адрозьненьня остэомаляцыі ад рахіту нельга забываць аб тым, што рахіт ёсьць хвароба парасят, тады як остэомаляцыя наглядаецца ў дарослых сьвіней.

**Прогноз.** У лёгкіх выпадках, калі жывёла яшчэ ня схудала і ў касьцях шкілету няма рэзкіх зьмяненьняў пры наяўнасьці добрых умоў утрыманьня і кармленьня—прадказаньне можа быць спрыяючым. Калі-ж жывёлы ня могуць падымацца на ногі і зьяўляюцца ненормальнасьці ў шкілеце, прогноз няспрыяючы.

**Лячэньне.** Зьяўленьне остэомаляцыі нярэдка можна ўстараніць правільным утрыманьнем і кармленьнем цяжарных сьвінаматак, а таксама і тых, якія кормяць парасят. Сьвінаматкам належыць адводзіць пашы са спрыяючымі глебавымі ўмовамі, пры ўтрыманьні-ж у стойле пускаць іх на прагулкі ў сонечныя дні на сьвежае паветра ня менш чым 2-3 гадзіны. Корм павінен быць добрай якасьці і мець у сабе ўсе неабходныя для харчаваньня састаўныя часткі, прычым не павінна быць, як перакармленьня, так і недакармленьня. Пажадана па магчымасьці ўнікаць зімовых і раньніх вясновых апаросаў, бо ў гэты час сьвіньні звычайна знаходзяцца ў больш цяжкіх умовах утрыманьня. Пры слабай

дзейнасьці кішочніка хворым назначаюць слабіцельныя: каламель, касторавае масла, глаубэраву́ю соль. Добра ўжываць клізмы. Пры недахваце ў корме вапняковых солей і фосфару, неабходна дабаўляць іх у выглядзе крэйды, ачышчанай костнай мукі, фосфарна-кіслага натра, чаргуючы дачу ўказаных прэпаратаў праз 2-3 дні. Можна рэкомэндаваць даваць таксама спажыўную соль і рыбны жыр.

1. *Rp.* Natr. phosphoric 10,0

D. S. на адзін прыём на працягу 3-4 дзён, пасьля чаго замяніць крэйдай.

2 *Rp.* Natr. Chlorat, 5,0

D. S. на адзін прыём у корм, штодзённа на працягу хваробы.

3. *Rp.* Ol. jecoris aselli 200,0

D. S. па сталовай лыжцы ў корм, 2 разы ў дзень.

## СКОРБУГ—ЦЫНГА

**Этыолёгія**. Прычынамі, якія выклікаюць скорбут, звычайна служаць цесныя, вільготныя, брудныя і з дрэннай вэнтыляцыяй сьвінарнікі, сапсаваны, а таксама аднастайны корм, адсутнасьць у рацыёне супроцьцынгаўскага вітаміну, які, як вядома, ёсьць у сьвежай гародніне, кораньплодах, сырым малаку, мясе і фруктах.

**Сымптомы**. Жывёлы вялыя, неахвотна рухаюцца, апэтыт паменшаны, сьлізістыя абалонкі бледныя, стан жыўленьня паступова пагаршаецца, рост спыняецца. Сьлізістая абалонка дзяснаў апухае і лёгка крываточыць пры разжоўваньні асабліва грубага корму. У далейшым краі дзяснаў нэкрытызуюцца, утвараюцца язвы, зубы пачынаюць хістацца і вывальваюцца. Як на дзяснах, так і на іншых мясцох цела зьяўляюцца крывязьліяньні. Скура, афарбаваная ў выніку крывязьліяньняў месцамі ў чырвоны або фіялетавы колер, траціць сваю эластычнасьць. Шчаціна ў скуры трымаецца ня моцна, лёгка вырываецца, прычым на каранёх валасоў заўважаюцца маленькія кропелькі крыві. Хворыя больш ляжаць. Часта ў іх разьвіваецца панос. Стан хворых хутка пагаршаецца і жывёлы гінуць пры зьявах агульнага схуданьня.

**Дыягноз.** Распазнаваньне ўтвараецца на аснове клінічнага дасьледваньня і даных анамнэзу.

**Прогноз.** Ход хваробы павольны і сьмерць звычайна надыходзіць праз некалькі месяцаў. У пачатковай стадыі хваробы, пры адпаведным лячэньні прадказаньні спрыяючыя, у запушчаных выпадках лятальны канец амаль немінучы.

**Лячэньне.** Хворых належыць паставіць у добрыя ўмовы ўтрыманьня. Сьвінарнікі павінны

быць прасторныя, чыстыя, сухія, сьветлыя, з добрай вэнтыляцыяй. У добрае надвор'е сьвіней неабходна трымаць на вольным паветры. Строга рэгуляваць дыэту. Рэкомэндуецца карміць параным малаком з дабаўленьнем макухі, запаранай ґусянай або ячнай мукі, вялёнага корму, морквы, рэпы, яблык. Добра даваць молатыя жалуды, каштаны, корань гарачоўкі, чай з яловых іголак і дубовую кару.

1. *Rp.* Pulv. rad. gentianae 5,0
D. S. на адзін прыём па парашку 2 разы ў дзень,

2. *Rp.* Pulv. rad. Colombo 5,0
D. t. d. N VI па парашку 2 разы ў дзень з кормам.

3. *Rp.* Ferr. Sulfur. 0,5
D. S. На адзін прыём у корм.

*Заўвага:* разьвёўшы загадзя ў гарачай вадзе.

## МАЛАКРОЎЕ—АНЭМІЯ

**Этыолёгія.** Малакроўе найбольш часта сустракаецца сярод кволых сьвіней культурных парод, прычым галоўным чынам сярод парасят. Значную ролю ў этыолёгіі малакроўя адыгрывае ўтрыманьне жывёл у сырых, цёмных, цесных, з дрэннай вэнтыляцыяй сьвінарніках, а асабліва, калі пры гэтым жывёлы пазбаўлены руху на чыстым паветры. Вялікае значэньне ў этыолёгіі

малакроўя мае таксама працяглае недастатковае жыўленьне, прычым шкоднае ўзьдзейнічаньне карммленьня можа залежыць як ад недастатковай колькасьці корму, які даецца сьвіньням, так і ад нязначнай колькасьці ў ім бялку і жалеза. Акрамя таго малакроўе зьяўляецца амаль сталым спадарожнікам некаторых хронічных хвароб, якія спраўджаюцца расстройствам страваваньня.

**Сымптомы.** У вострых выпадках анэміі відомыя сьлізістыя абалонкі бледныя. Сардэчны штуршок становіцца стукаючым, пульс робіцца больш частым і слабее. Жывёла быстра худзее, прычым у цяжкіх выпадках схудзеньне даходзіць да таго, што жывёла ня можа трымацца на нагах, падае на зямлю, траціць прытомнасьць і гіне.

Пры хронічным малакроўі ўказаныя зьявішчы разьвіваюцца значна павольней. У жывёл звычайна назіраецца санлівасьць і бязудзельныя адносіны да вакольнага, прычым яны многа ляжаць. Пульс рэзка пачашчаецца нават пасьля зусім нязначных зьнешніх уплываў. Сардэчныя тоны часамі дрэнна чутны, а часамі бываюць нячыстыя. Тэмпэратура некалькі паніжаная, апэтыт памяншаецца, страваваньне расстрайваецца. Хворыя худнеюць, губяць бляск шэрсьці, у розных мясцох цела зьяўляюцца часамі ацёкі.

**Дыягноз**. Дакладны анамнэз і клінічнае назіраньне даюць магчымасьць правільнага распазнаньня малакроўя. Аднак пры ўсякай анэміі пажадана акрамя гэтага рабіць дасьледваньне крыві. Апошнім дасягаецца больш дэтальная дыягностыка зьмяненьняў, якія ёсьць у састаўных частках крыві.

**Прогноз**. Прадказаньне залежыць ад характару малакроўя. Напрыклад, вострая анэмія, якая адбываецца ад крывястрат, параўнальна праз кароткі час аканчваецца выздараўленьнем, калі крывяцячэньне было спынена і жывёле прадстаўлена дастатковае харчаваньне. Наогул вынік анэміі залежыць ад ступені яе разьвіцьця, а таксама ад магчымасьці ўстараненьня прычын гэтай хваробы і своечасовасьці распачатага лячэньня.

**Лячэньне**. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на ўстараненьне прычын, якія выклікаюць малакроўе. Пры вострай анэміі, якая разьвілася ў выніку крывяцячэньня, раней за ўсё неабходна спыніць апошняе. Пры ўнутраных крывяцячэньнях з гэтай мэтай ужываюць матачныя ражкі, адрэналін. Пры малакроўі, якое атрымалася з прычыны дрэннага ўтрыманьня і кармленьня або зьнясіляючых хвароб, належыць паклапаціцца аб рацыянальным утрыманьні жывёл. Корм, які даецца, павінен быць добраступленым, добрай якасьці і мець у сабе ўсе спажыўныя

матэрыі. Сьвінарнікі павінны быць сухія, чыстыя і сьветлыя. Прагулка ў сонечныя дні на сьвежым паветры абавязкова. З лякарственых матэрый добра ўжываць прэпараты жалеза і мыш'яку, прычым прэпараты жалеза рэкомэндуюць даваць з горкімі і ароматычнымі матэрыямі. Для ўзмацненьня апэтыту можна назначыць саляную кіслату.

1. *Rp.* Extr. Secal. corn. 0,5
D. S. На адзін прыём. Унутранае.

2. *Rp.* Liq. Kal. arsenicosi gutt 10
D. S. Унутранае 2 разы ў дзень з кормам.

3. *Rp.* Ferrum pulv. 1,0
D. t. d. VI. Унутранае. Па парашку ў дзень з кормам.

4. *Rp.* Ferr. Sulfuric 5,0
sal. car. fact. 100,0
M. D. S. Па чайнай лыжцы ў корм адзін раз у дзень.

---

## II. ХВАРОБЫ НЭРВОВАЙ СЫСТЭМЫ

### ЦЕПЛАВЫ І СОНЕЧНЫ УДАР

**Этыолёгія.** Часьцей за ўсё назіраецца ў сьвіней, якія знаходзяцца пад доўгім узьдзеяньнем высокай тэмпэратуры. Апошняя можа быць пры транспортыроўцы ў душных чыгуначных вагонах, пры ўтрыманьні ў цесных, празьмерна цёплых, якія дрэнна праветрываюцца, сьвінарніках, пры

непасрэдным дзеяньні сонечных праменьняў у час пашы ці ў час перагону сьвіней па гужавых дарогах і да т. п.

**Сымптомы.** У жывёл спачатку заўважаецца прытупленасьць сазнаньня, слабасьць, нязграбная хада. Сардэчны штуршок становіцца стукаючым, пульс паскораны, слабы. Дыханьне таксама паскоранае і павярхоўнае. Тэмпэратура падымаецца да 42-45° Сьлізістыя абалонкі спачатку гіпэраміраваны, а потым становяцца бледнымі і зьлёгку сінюшнімі. Нярэдка ў жывёл наглядаецца зьява ўзбуджэньня, сударгі і хуткая сьмерць ад паралiча жыцьцёвых нэрвовых цэнтраў.

**Дыягноз.** Для пастаноўкі дыягнозу неабходна ўлічыць клінічную карціну і даныя анамнэзу. Звычайна гэтага бывае дастаткова, каб адрозьніць цеплавы ўдар ад хваробы, у якой-небудзь частцы сымптомаў падобных на цеплавы ўдар: эпілепсія, ацёк лёгкіх, вострыя інфэкцыйныя хваробы (сібірская язва, бацылярная рожа) і інш.

**Прогноз.** Прадказаньне бывае розным у залежнасьці ад характару этыолёгічных момантаў і ад своечасовасьці ўжытага лячэньня. Наогул прогноз павінен быць асьцярожным.

Лячэньне. Для папярэджаньня цеплавога ўдару неабходна сьвінарнікі трымаць у чыстаце,

часьцей іх праветрываць і падтрымліваць у іх умерана цёплую тэмпэратуру. Пры трыманьні на пашах у жаркую пагоду старацца, каб сьвіньні знаходзіліся ў цені; пры транспортыроўцы па чыгунцы і гужавых шляхох, асабліва ў жаркую пагоду, унікаць цеснаты ў вагонах і на павозках. Захварэўшых сьвіней зараз-жа зьмясьціць у прасторнае, сухое, прахладнае памяшканьне, даць ім вялікую колькасьць добрага і сухога подсьцілу. На вобласьць галавы мэтазгодна пакласьці халодны компрэс або змочваць галаву халоднай вадою (ахаладжваць усё цела жывёлы не рэкомэндуецца, бо гэта можа паскорыць сьмерць жывёлы). Унутр добра даваць невялікую колькасьць чыстай, не халоднай вады, дадаўшы да яе адну сталовую лыжку гарэлкі. Добра дзейнічае таксама настойка стрыхніны. У некаторых выпадках нележыць зьвярнуцца да ін'екцыі кофэіну або камфары.

1. *Rp.* T-rae Strhychnini gutt X.
   D. S. На сталовую лыжку гарэлкі на 1 прыём.
2. *Rp.* Liq. ammon. caust. 1,0
   D. S. На адзін прыём у выглядзе кашыцы.
3. *Rp.* Coffeini natr. salicyl. 1,0
   Aq. destill. 5,0
   M. D. S. Для падскурнай ін'екцыі
4. *Rp.* Ol. Camphar. ster 5,0 (1:10).
   D. S. Для падскурнай ін'екцыі.
   Заўвага. Прыдае пах мясу.

## ПАРАЛІЧ ЗАДУ

**Этыолёгія.** Параліч заду наглядаецца сярод усіх парод сьвіней. Прычынамі захворваньня звычайна служаць мэханічныя ўзьдзеяньні на паясьнічную вобласьць. Параліч заду нярэдка ўзьнікае пасьля няўдалага павалу пры кастрацыі або прышчэпках, пасьля ўдараў паясьніцы, пасьля пасадкі на сьвінаматку цяжкага кныра і да т. п.

Проф. Уранаў указвае, што пры стойлавым утрыманьні і вялікай скучанасьці ў некаторых сьвіней зьяўляецца нахіл да ананізму; пры гэтым яны прымаюць нязвычайныя позы, якія цягнуць за сабою абцяжаленьне паясьнічнай часткі хрыбетніка, а нарэшце і захворваньне сьпіннога мозгу і параліч заду.

**Сымптомы**. Пры няпоўным паралічу сьвіньні больш ляжаць, калі-ж іх прымушаюць уставаць, яны падымаюцца з цяжкасьцямі і скора кладуцца зноў; у час хады, асабліва пры паваротах, заўважаюцца хістаньні заду. У час яды хворыя пераступаюць заднімі нагамі. Поўны параліч заду характэрызуецца немагчымасьцю ўладаць заднімі нагамі. Хворыя пры пераходах апіраюцца толькі на пярэднія ногі, цягнучы за сабой зад. Апэтыт паступова зьмяншаецца. Дзейнасьць кішочніка парушаецца, хворыя худнеюць.

**Дыягноз**. Клінічная карціна і анамнэстычныя даныя даюць магчымасьць беспамылкова распазнаваць хваробы.

**Прогноз.** Прадказаньне пры розных відах паралічу заду ўвогуле няспрыяючае, бо няпоўны параліч на працягу часу часта пераходзіць у поўны, а да апошняга нярэдка далучаецца запаленьне кішочніка, або нэфрыт.

**Лячэньне**. Сьвінарнікі павінны быць прасторныя, сухія, багатыя сьветам і паветрам. У захварэўшых жывёл неабходна сачыць за дзейнасьцю кішочніка. Пры зьяўленьні запору даюць слабіцельнае (каламель, сабур) і ужываюць клізмы з цёплай вады з мылам. У вобласьці паясьніцы ўжываюць уціраньні раздражняючых ліномэнтаў. Пры ўпадку сіл зьвяртаюцца да ўзбуджаючых сродкаў.

1. *Rp.* Aloes pulv. 5,0
   D. S. Слабіцельнае на адзін прыём з мёдам, намазаўшы на корань языка.

2. *Rp.* Ol. Hyoscyami 40,0
   Ol. Camphor. 25,0
   Liq. ammon. caust. 10,0
   M. f. linim. D. S. Для расьціраньня вобласьці паясьніцы.

3. *Rp.* Liq. ammon. caust.
   Ol. Terebinthin, aa 10,0
   Ol. Camphor. 30,0
   M. f. linim.
   D. S. Для ўціраньняў.

4. *Rp.* T-rae Sthrichnini gutt 10,0
   D. S. На адзін прыём з лыжкай гарэлкі.

## ЗАПАЛЕНЬНЕ ГАЛАЎНОГА МОЗГУ І МАЗГАВЫХ АБАЛОНАК

**Этыолёгія**. Запаленьне галаўнога мозгу і мазгавых абалонак частка разьвіваецца ў выніку мэханічных пашкоджаньняў, удараў і ўшыбаў вобласьці галавы. Акрамя таго транспартыроўка па чыгунцы ў жаркую пагоду, доўгія перагоны, утрыманьне ў душных, дрэнна абсталяваных сьвінарніках, паступленьне ў організм некаторых мінэральных і расьлінных ядаў, прысутнасьць паразытаў у чэрапной поласьці, а таксама інфэкцыі (тубэркулёз) адзначаюцца часамі ў этыолёгіі запаленьня мазгоў.

**Сымптомы**. Хвароба характарызуецца расстройствам савнаньня і апатыяй, якая зьмяняецца сільным узбуджэньнем, у час якога сьвіньні або бяссэнсава, ня бачычы перад сабою ніякіх перашкод, бягуць наперад, або робяць манежныя рухі. З роту нярэдка паказваецца пена, да якой часамі ў выніку раненьня сьлізістай абалонкі роту бывае падмешана кроў. У пасобных выпадках, узбуджэньне ўзмацняецца да такой ступені, што жывёла кідаецца на падышоўшага да яе чалавека, лезе на сьцены сьвінарніка, хапае розныя, што пападаюцца на вочы, рэчы, пішчыць. Становішча ўзбуджэньня можа працягвацца 30-60 мін., пасьля чаго хво-

рыя ў конвульсіях падаюць на зямлю. У гэты час у іх часта наглядаецца ванітаваньне. Паўторныя прыпадкі зьнясіляюць жывёлу і яна звычайна гіне.

**Дыягноз**. Ход хваробы, клінічныя прызнакі, анамнэстычныя даныя і адсутнасьць паралічаў даюць апору для пастаноўкі дыягнозу.

Заўвага: У выпадку западазрэньня шаленства належыць накіраваць для дасьледваньня ў бактэрыолёгічную ляматорыю галаву здохлай жывёлы.

**Прогноз**. Прадказаньне стаіць у зьвязку з прычынамі, якія выклікаюць запаленьне галаўнога мозгу. Наогул яно няспрыяючае.

Лячэньне. Хворую жывёлу неабходна зьмясьціць у прасторнае, прахладнае, адасобленае памяшканьне, даўшы ёй поўны спакой. Корм павінен быць добраякасны і давацца ў вадкім стане. Рэкамэндуецца ўжываць халодныя компрэсы на лоб. Пры сільным узбуджэньні можна рабіць умеранае крывяпусканьне (у дарослых сьвіней да 2-х чайных шклянак крыві). Крывяпусканьне робяць з хваста, для чаго стэрыльнымі ножніцамі, або скальпэлем адразаюць хвост на адлегласьці 2-3 пальцаў ад яго канца. Пасьля крывяпусканьня на канец хваста накладаецца лігатура. Унутр даецца настойка стрыхніну. Для рэгуляваньня дзейнасьці страў-

нікова-кішочнага тракту назначаюць карлсбадскую соль, а пры паяўленьні запору сабур.

1, *Rp.* T-rae Sthrychnini gutt. t. 10,0

D. S. Два разы ў дзень у корм на працягу 2-3 дзён,

2. *Rp.* Aloes pulv. 3,0
Sachari albi. 5,0
Pulv. rad. Liquirit et Aq. destill g. s.
M. f. alectuar.

D. S. На адзін прыём.

## ЭПІЛЕПСІЯ АБО ПАДУЧАЯ ХВАРОБА

**Этыолёгія**. Прычыны падучай хваробы невядомы. Як відаць вялікае значэньне ў паходжаньні эпілепсіі мае спадчыннасьць. У жывёл, маючых прыроджаную схільнасьць да хваробы, яна можа быць у розным узросьце, пры гэтым ня рэдка першы прыпадак зьяўляецца ў рэзультаце якога-небудзь зьнешняга ўзьдзеяньня накшталт узбуджэньня, спалоху, грубых адносін і да т. п. Часамі пры эпілепсіі выяўляліся паразыты (пераважна цыстыцэркі) у галаўным мазгу і яго мяккіх абалонках. У аднэй гаспадарцы, дзе былі адзінкавыя выпадкі захворваньня эпілепсіяй у дарослых сьвіней, проф. Уранаў наглядаў масавае зьяўленьне эпілептападобных прыпадкаў у парасят. У гэтай гаспадарцы, між іншым, назіралася празьмернае захапленьне разьвядзеньнем сьвіней ад аднаго і таго-ж сямейства, і зьвяртаў на сябе ўвагу

недахват моцыёну, утрыманьне сьвіней у сырых, з дрэннай вэнтыляцыяй, памяшканьнях і недахват мінэральных матэрый у страве.

**Сымптомы.** Эпілепсія характэрызуецца перыодычна паўтараючыміся сваясаблівымі прыпадкамі. Перад наступленьнем прыпадку жывёла адразу пачынае выяўляць нэрвовасьць, непакой, пачынае дрыжэць, робіць частыя дыхальныя рухі і вельмі хутка, губячы прытомнасьць, падае на зямлю. Сьледам за гэтым або з самага пачатку зьяўляюцца асабліва характэрныя для эпілептычнага прыпадку клёнічныя сударгі, якія ў большасьці выпадкаў пачынаюцца ў вобласьці галавы ці шыі, а потым быстра распаўсюджваюцца і на астатнія часткі цела. Часамі-ж прыпадак пачынаецца зусім нечакана. У час яды жывёла адразу ўзьвізгвае, як відаць дзякуючы міжвольнаму скарачэньню цяглід задніх канцавін. Потым, нібы спалохаўшыся, яна адскаквае ў бок, падае на зямлю, адкідае галаву наколькі можна назад, дрыжучы ўсім целам. Пры гэтым наглядаецца рэзка пачашчанае, павярхоўнае дыханьне, а ў выніку скарачэньня жавальных цяглід ніжняя сківіца моцна прыціскаецца да верхняй, ссоўваючыся ў бок; пры чым чуваць скрыгатаньне і лясканьне зубамі. Сьліна зьбіваецца ў пену і дзякуючы раненьням языка, якія атрымліваюцца ў час сьцісканьня зубоў, пена афарбоўваецца

ў крывяны колер. Праз некаторы час інтэнсыўнасьць цяглічных скарачэньняў пачынае паступова слабець, сазнаньне і пачуцьцёвасьць аднаўляюцца, хворыя падымаюцца і прымаюцца за яду, выяўляючы некаторы час слабасьць пры рухах. Прыпадкі працягваюцца 5—10—30 мінут.

**Дыягноз.** Нечаканы пачатак і малае прадаўжэньне прыпадкаў, адсутнасьць павышанай тэмпэратуры, адносна нормальнае становішча жывёлы ў вольныя прамежкі часу між прыпадкамі і хранічны ход хваробы даюць апору зрабіць правільнае распазнаваньне і адрозьніць эпілепсію ад падобных на яе нэрвовых прыпадкаў.

**Прагноз**. Прыпадкі пры эпілепсіі паўтараюцца не рэгулярна. У некаторых выпадках яны могуць паўтарацца некалькі разоў на працягу адных сутак, а часамі адсутнічаюць на працягу некалькіх тыдняў і месяцаў. Найбольш цяжкае становішча наглядаецца ў тых жывёл, у каторых прыпадкі наступаюць адзін за другім праз такія кароткія прамежкі часу, што нават сазнаньне не пасьпявае вярнуцца. Такія хворыя гінуць у час прыпадку пры зьявах асфіксіі. Наогул ход хваробы хранічны. Хворыя хаця і могуць аставацца жывымі на працягу некалькіх мясяцаў або гадоў, калі сьмерць не надыйдзе

раней ад якіх-небудзь іншых прычын, але прадказаньне пры эпілепсіі павінна быць няспрыяючае.

**Лячэньне** У мэтах папярэджаньня хваробы вялікае значэньне мае падбор племяннога стада, з якога належыць выбракоўваць як хворых, так і схільных да захворваньня эпілепсіяй. У дарослых сьвіней аслабленьне прыпадкаў удаецца часамі дасягнуць ужываньнем халодных компрэсаў або паліваньнем халоднай вады на галаву, між вушамі. Парасят хворых эпілепсіяй рэкамэндуецца апускаць у цёплую ваду. Для аслабленьня прыпадкаў даюцца бромістыя солі.

*Заўвага*: Рацэпты глядзі пры эклямпсіі.

## ЭКЛЯМПСІЯ

**Этыолёгія**. Сустракаецца звычайна ў парасят і надзвычайна рэдка ў дарослых сьвіней. Як відаць, у паходжаньні эклямпсіі мае значэньне як спадчынная схільнасьць, так і нерацыянальнае ўтрыманьне жывёл. Прычыны эклямпсіі ня вывучаны. У пераважнасьці яна ўзьнікае ў парасят у пэрыод прарэзваньня зубоў. Радзей захворваюць сьвінаматкі, асабліва першародзячыя, непасрэдна пасьля апаросу. Акрамя таго нярэдка пры эклямпсіі ўдаецца констатаваць якое-небудзь унутраное захворваньне: ката-

ральны стан страўніка і кішок, запаленьне сьлізістай абалонкі поласьці роту, рахіт, кішочныя глісты і інш.

**Сымптомы**. Эклямпсічны прыпадак вельмі падобны на эпілептычны. Істотным адрозьненьнем ад эпілепсіі зьяўляецца востры ход працэсу эклямпсіі. Эклямпсічны прыпадак праяўляецца ў большай частцы нечакана, працягваецца кароткі час і потым назаўсёды зьнікае. У іншых выпадках прыпадкі амаль бесьперапынна на працягу некалькіх гадзін ідуць адзін за адным, у выніку чаго хворыя парасяты зьнясільваюцца і могуць згінуць пры зьявах асфіксіі. У сьвінаматак хвароба пачынаецца праяўленьнем непакою, тонічных сударгаў жавальных цягліц, галавы і канцавін, прычым дыханьне затруднена, пульс пачашчаны, губіцца прытомнасьць.

**Дыягноз**. Анамнэз і клінічнае нагляданьне за прыпадкам робяць нятрудным распазнаваньне эклямпсіі.

**Прогноз**. У цяжкіх выпадках няспрыяючы.

**Лячэньне**. Галоўная ўвага павінна быць зьвернута на ўмовы ўтрыманьня і кармленьня сьвіней, асабліва супаросных. Разам з тым рэкомэндуецца, абсьледваўшы ўсіх сьвіней гаспадаркі на прысутнасьць глістоў і іх яек, зрабіць дэгельмінтызацыю. Сьвінарнікі, дзе знаходзіліся раней заражаныя глістамі жывёлы,

павінны быць добра вычышчаны і прадэзынфэцыраваны. Пры наступленьні прыпадкаў можна ўжываць хлорал-гідрат. Аднаўленьне прыступаў папярэджваецца дачай унутр солей брому. Сіла і даўжыня прыпадку могуць быць паслаблены ўжываньнем цёплых ванн. Пры захворваньні страўнікова-кішочнага тракту рэкамэндуецца падскурна вэратрын, па сканчэньні дзеяньня якога даецца каламель. Калі каламель не падзейнічаў, то праз 8-12 гадзін зьвяртаюцца да кастораватага масла. Супроць круглых глістоў добрым сродкам зьяўляецца сантанін.

1. *Rp.* Kal. bromat. 2,0
Aq. destill. 100,0
M. D. S. Па сталовай лыжцы 3-4 разы ў дзень з кормам.

2. *Rp.* Veratrin 0,1
spirit. vini rect 5,0
M. F. Solut D. S.
Для падскурн. ін'екцыі

3. *Rp.* Hydrarg. chlr. mit. 2,0
D. S. У сумесі з мукою і цукрам у выглядзе кашы на адзін прыём.

4. *Rp.* Santonini 1,0
Ol. Ricini 50,0
M. D. S. На адзін прыём

## ПЛЯСКА СЬВЯТОГА ВІТА. ХОРЭЯ.

**Этыолёгія**. Прычыны гэтай хваробы ня высьветлены. Вялікую ролю ва ўзьнікненьні гэтай хваробы адыгрывае спадчынная схільнасьць. Так Hess наглядаў гэтую хваробу ў парасят 3-х сьвінаматак, пакрытых адным і тым-жа

кнырам. Разам з тым нельга абвяргаць і тое, што ў паходжаньні хваробы маюць значэньне няспрыяючыя ўмовы ўтрыманьня. Kühn нагляд аў энзоотычнае распаўсюджаньне „пляскі сьв. Віта" ў парасят, якія трымаліся ў халодных, вільготных, цесных сьвінарніках і якія падпадалі дзеяньню халоднага ветру.

**Сымптомы.** „Пляска сьв. Віта" назіраецца выключна ў парасят, галоўным чынам у першыя дні пасьля апаросу. Хвароба характэрызуецца своеасаблівымі ўздрыгваньнямі пэўных груп цягліц канцавін, галавы, шыі, а часамі ўсяго тулава. Ня гледзячы на адсутнасьць расстройства страваваньня, хворыя парасяты пры гэтым усё ж адстаюць у сваім разьвіцьці.

**Дыягноз**. Распазнаваньне хваробы не зьвязана з асаблівымі труднасьцямі, калі пры доўгім назіраньні за хворымі парасятамі праяўляюцца ўказаныя сымптомы.

**Прогноз**. Працягласьць хваробы не вялікая. У большасьці выпадкаў праз 6—8 тыдняў наступае выздараўленьне.

Лячэньне. Належная ўвага павінна быць зьвернута на ўтрыманьне і падбор племяннога стада. Для лячэньня рэкамэндуецца ўжываць наркотычныя сродкі (бромісты калій, хлоралгідрат). Акрамя гэтага можна даваць фоўлераў-

скі раствор мыш'яку, пачынаючы з 5 і даводзячы да 10-20 капель у дзень, пасьля чаго памяншаць дозу да першапачатковага разьмеру.

1. *Rp.* Chloral hydrat. 5,0
D. S. У сьлізістым адвары ў выглядзе клізмы

2. *Rp.* Kal. bromat 5,0
Aq. destill. 150,0
M. D. S. Па сталовай лыжцы 3-4 разы ў дзень з кормам.

## III. ХВАРОБЫ ОРГАНАЎ КРЫВЯЗВАРОТУ

### ЗАПАЛЕНЬНЕ КАЛЯСАРДЭЧНАЙ СУМКІ—ПЭРЫКАРДЫТ

**Этыолёгія** Прычынаю пэрыкардыту звычайна зьяўляецца інфэкцыя: гнояродныя бактэрыі, узбуджальнікі тубэркулёзу, бацылярнай рожы і інш. Пэракардыт часта наглядаецца пры чуме, гемарагічнай сэптыцэміі, радзей пры сустаўным раматузе, воспе і інш. Нярэдка пэрыкардыт далучаецца да запаленьня плеўры і лёгкіх. Ва ўзьнікненьні пэрыкардыту немалаважную ролю адыгрываюць і спрыяючыя гэтай хваробе моманты, якія паніжаюць рэзыстэнтнасьць арганізму: ахаладжваньне (прастуда) пераўтома і г. д

**Сымптомы**. Хворыя жывёлы ўнікаюць розных рухаў і наглядаюцца зьмяненьні апэтыту. Тэмпэратура павышана і непастаянная, пульс пачаш-

чаны. Пры выслухваньні ў вобласьці сэрца чуваць шумы падобныя на скрып, усплёск і т д.. У пачатку хваробы ўзмоцнены сардэчны штуршок паступова слабее, часамі зусім не адчуваецца. Дыханьне пачашчанае і павярхоўнае.

**Дыягноз.** Распазнаваньне пэрыкардыту асноўваецца на даных клінічнага дасьледваньня і анамнэзу. Асабліва важнае значэньне маюць выяўленыя пры аускультацыі шумы. Пры ўсякім западазрэньні на пэрыкардыт неабходна некалькі разоў і з асаблівай уважлівасьцю выслухаць сардэчную вобласьць.

**Прогноз**. У большасьці выпадкаў пэракардыт канчаецца сьмерцю жывёлы. Так, калі запаленьне калясардэчнай сумкі далучылася да якой-небудзь інфэкцыйнай хваробы (напр. да гемарагічнай сэптыцэміі)—то сьмерць надыходзіць ужо звычайна на працягу першага тыдня.

Лячэньне. Акрамя адпаведнай дыэты ўжываюць халодныя компрэсы на сардэчную вобласьць. Пры ўпадку сардэчнай дзейнасьці даюць наперсьцянку ў выглядзе кашкі, кофэін пад скуру. Камфара, паколькі яна прыдае спэцыфічны пах мясу, ня робіцца. Для паскарэньня ўсасваньня эксудату рэкомэндуюцца мачагонныя сродкі.

Ужываньне ўказаных сродкаў, аднак, не заўсёды дае спрыяючыя рэзультаты. У паасобных

выпадках належыць паклапаціцца аб своечасовай утылізацыі хворых на мяса.

1. *Rp.* Infus Fol digilalis 2,0:100,0
D. S. Па чайн. лыжцы раніцай і ўвечары на працягу 2-х дзён.

2. *Rp.* Urotropin 0,5
D. t. d. № IV. Па парашку на адзін прыём, два разы ў дзень у выглядзе кашкі.

## ЗАПАЛЕНЬНЕ ЭНДОКАРДА—ЭНДОКАРДЫТ.

**Этыолёгія.** Эндокардыт можа працякаць у вострай і хронічнай форме. Вострае запаленьне эндокарда часьцей за ўсё атрымоўваецца ў выніку пранікненьня ў поласьць сэрца гнойных мікроорганізмаў—кокаў, стрэптококаў, стафілёкокаў, Bac. Pyogeenis. Нярэдка таксама эндокардыт разьвіваецца пры рожы, яшчуры, тубэркулёзе, чуме, сэптыцэміі і сустаўным раматузе. Момантамі, выклікаючымі нахіл да захвораваньня, зьяўляюцца траўматычныя ўзьдзеяньні на вобласьць сэрца, ахалоджваньне.

**Сымптомы.** Адрозьніваюць дзьве формы эндокардыту: язьвеную і барадаўчатую. Пры язьвенай форме на кляпанах сэрца ўтвараюцца то паверхоўныя, то глыбокія язвы з бура-чырвоным маркім дном, а пры барадаўчатай на паверхні сардэчных кляпанаў атрымліваюцца фіброзныя, рознай велічыні, сасочкападобныя або ў форме барадавак вузлы. У сувязі з фор-

май эндокардыту і лёкалізацыяй запаляльнага процэсу ў эндокардыце знаходзяцца клінічныя прызнакі захворваньня. Апошнія звычайна праяўляюцца агульнаю слабасьцю, падаўленасьцю, павышэньнем тэмпэратуры, пры чым у адных выпадках гэтыя прызнакі выражаны мацней, у другіх слабей. Да найбольш істотных сымптомаў эндокардыту адносяцца рэзкае ўзмацненьне сардэчнага штуршка, а таксама пачашчаны пульс.

**Дыягноз**. Распазнаваньне робіцца шляхам неаднаразовага і ўсебаковага дасьледваньня сэрца. Эндокардыяльны шум, які чуваць пры гэтым спачатку слаба і каротка, і які затым паступова ўсё больш узмацняецца, звычайна служыць падставаю для дыягностыкі эндокардыту.

**Прогноз.** Прадказаньне няспрыяючае. Востры эндокардыт часьцей за ўсё мае лятальны канец або прыводзіць да органічных парокаў сэрца.

Лячэньне. Жывёле належыць даць поўны спакой, прасторнае, чыстае памяшканьне, добрастраўны і добраякасны корм. У вобласьць сэрца рэкомэндуецца прыкладваць халодныя компрэсы, а ўнутр назначыць напярсьцянку. Пры слабасьці сэрца добра таксама дзейнічае ў малых дозах кофэін, віно і т. д.. Пры высокай тэмпэратуры можна ставіць халодныя

клізмы і ўжываць супроцьліхарадачныя сродкі: антыпірон, або саліцылавыя прэпараты. Ня трэба забываць пра своечасовую ўтылізацыю хворых жывёл на мяса.

1. *Rp.* Coffein n. s. 1,0
Aq. destill. 5,0
M. D. S. Для падскурнай ін'екцыі.

2. *Rp.* Antiperini 1,0
D. S. 3 мёдам, намазаць на корань языка.

3. *Rp.* Acid. salicylici 1,0
D. S. На адзін прыём унутр у выглядзе кашкі, загадзя распусьціўшы ў гарач. вадзе.

## IV. ХВАРОБЫ ОРГАНАЎ СТРАВАВАРЭНЬНЯ

### КАТАР РАТАВОЙ ПОЛАСЬЦІ—СТОМАТЫТ.

**Этыолёгія**. Катар поласьці роту можа разьвівацца на глебе мэханічных, хімічных і тэрмічных пашкоджаньняў сьлізістай абалонкі роту. Мэханічныя пашкоджаньні робяцца: часткамі расьлін, вострымі іншароднымі целамі, асабліва часта аскёпкамі касьцей, а таксама пры няўмелым дасьледваньні ратавой поласьці. Да хімічных раздражальнікау належыць аднесьці: дачу ўнутр у сільнай концэнтрацыі ванітавальнага камня, няўмелае ўжываньне мыш'яку; кармленьне сільна бруэжанай бурдою, акрамя таго катар

ратавой паласьці можа абумоўлівацца кармавымі матэрыямі, якія падпалі процэсу бруза-ваньня. Малако з хворага вымя і малако кароў хворых яшчурам таксама могуць выклікаць стоматыт. Тэрмічнымі пашкоджаньнямі належыць лічыць: апёкі і абварваньне гарачым кормам. Паўторнае запаленьне сьлізістай абалонкі роту можа ўзьнікаць у сувязі з прарэзваньнем і зьменаю зубоў. Вельмі часта катар ратавой паласьці ўзьнікае пры расстройствах страваварэньня, а таксама пры захворваньнях абмену (рахіт, скорбут і г. д,) і пры інфэкцыйных хваробах.

**Сымптомы.** У выніку павышанай чульлівасьці сьлізістай абалонкі ратавой паласьці, жывёлы асьцярожна прымаюць корм. Смага ўзмоцнена. З куткоў роту цячэ сьліна, часамі ў выглядзе пены. Сьлізістая абалонка роту пачырванеўшая, некалькі падпухшая і гарачая на вошчуп.

**Дыягноз.** Распазнаць стоматыт ня цяжка. Пры пільным дасьледваньні жывёлы можна ўстанавіць ці разьвіўся даны стоматыт самастойна, або ён спадарожнічае другой якой-небудзь хваробе; пры захворваньні стоматытам у другі раз, якое зьявілася напр. пры скорбуце, наглядаецца зьязуленьне дзяснаў, крывязьліяньне ў сьлізістую абалонку, скуру, а таксама выпаданьне шчаціны.

**Прогноз**. Прадказаньне залежыць галоўным чынам ад таго—ці ўстранімы прычыны хваробы і на колькі своечасова ўжыта лячэньне. Пры своечасовым лячэньні стаматыт працягваецца 1—2 тыдні. Самы працэс і канец другачных стаматытаў стаяць у сувязі з прыродай асноўнага захворваньня.

Лячэньне. Устраненьне прычын, якія выклікалі захворваньне, выдаліць з рацыёну сухі, грубы корм і замяніць яго больш вадкім, добраcтраўным (пойла з вотрубяй, аўсянай мукі, вараная бульба, з прыбаўленьнем малочнай сыроваткі і т. д.). Частая зьмена чыстай нехалоднай вады, каб сьвіньні маглі пры жаданьні паласкаць у ёй рот. Для спрынцаваньня побач з сьвежай вадою, можна ўжываць розныя дэзынфэкцыруючыя і вяжучыя сродкі: процантныя растворы—буры, квасцоў, таніну і соды, 1-2 проценты раствору крэоліну, 1/2 процанты раствору марганцава-кіслага калія.

1. *Rp.* Creolini 6,0
Aq. fontani 300,0
M. D. S. Solutio. Для прамываньня поласьці роту пры стоматыце.

2. *Rp.* Acidi tannici 3,0
Aq. fontani 300,0
M. D. S. Solutio.

3. *Rp.* Borax 2,0
Aq. fontani 200,0
M. D. S. Solutio.

*Заўвага*. Растварaецца ў гарачай кіпячонай вадзе

## ЗАПАЛЕНЬНЕ МЯККАГА НЁБА МІНДАЛІНЫ ГЛОТКІ ФАРЫНГІТ—АНГІНА

**Этыолёгія.** Запаленьнем глоткі зав. усе запаляльныя процэсы, якія бываюць у сьлізістай абалонцы глоткі, мяккім нёбе і міндалінах. З прычыны таго, што глотка прымае ўдзел у акце дыханьня, то яна нярэдка захворвае разам з органамі дыханьня. У гэтых выпадках прычынаю фарынгіту часта служыць прастуда: быстрая зьмена акружаючай тэмпэратуры, калі напр. сьвіньні, якія трымаюцца ў цёплых хлявох, выганяюцца на прагулку ў халодную, дажджлівую пагоду, прыём халоднага корму і вады, перавозка ў адкрытых чыгуначных вагонах і т. д. Зьяўляючыся часткаю стрававальнага тракту, запаленьне глоткі можа атрымацца пры глытаньні цьвёрдых частак корму, або якіх-небудзь іншародных цел, якія могуць раніць сьлізістую абалонку і праз гэта зрабіць яе даступнай для разьвядзеньня гнояродных мікробаў. Запаленьне глоткі можа выклікаць ужываньне некаторых сільна концэнтрыраваных лякарстваў, а таксама доза празьмерна гарачага корму. Параўнальна частаму захвораваньню сьвіней фарынгітам садзейнічае наяўнасьць у гэтых жывёл Bursae pharyngcae, у якую пры прагавітай, сьпешнай ядзе могуць трапляць часткі стравы. Пры некаторых інфэкцыйных хваробах

запаленьне глоткі разьвіваецца ў другі раз (чума, гемарагічная септыцэмія, антракс і інш.)

**Сымптомы**. Характэрным прызнакам фарынгі ту зьяўляецца павольны, асьцярожны прыём корму і затрудненае глытаньне. Глытаньне корму часта адбываецца пры выцягнутай напе-рад галаве і шыі, пры-чым сьвіньні часамі моцна ўскрыкваюць. У выніку раздражненьня сьлізістай абалонкі глоткі, нярэдка наглядаецца ванітаваньне. Вобласьць глоткі звычайна прыпухае, афарбавана ў сінявата-чырвоны колер, гарачая на вошчуп і пры датыканьні баліць. Унутраная тэмпэратура цела часамі значна павышана. Дыханьне затруднена і амаль заўсёды мае месца вельмі хваравіты кашаль.

**Дыягноз**. Затрудненае глытаньне, боль пры націсканьні на глотку, кашаль, ліхарадка, нярухомасьць галавы, часамі ванітаваньне, даюць магчымасьць беспамылкова дыягнасцыраваць фарынгіт.

**Прогноз**. Фарынгіт у сьвіней часта канчаецца быстрай сьмерцю ад асфіксіі ў выніку ацёку гартані. Працяглы ход хваробы наглядаецца пры ўтварэньні абсцэсаў, прычым у такіх выпадках тэмпэратура цела быстра павы-

шаецца, пасьля-ж ускрыцьця абсцэсаў тэмпэратура падае да нормы, пасьля чаго можа наступіць выздараўленьне. На месцы ўскрыўшыхся абсцэсаў іногды застаецца цьвёрдая хваравітая прыпухласьць, якая затрудняе дыханьне. Прадказаньне пры фарынгіце, які не ўскладнён ацёкам гартані, ўвогуле спрыяючае. Але з прычыны таго, што нават лёгкая форма фарынгіту можа аскладніцца ацёкам гартані, то прогноз пры запаленьні глоткі належыць рабіць асьцярожна.

Лячэньне. Раней за ўсё неабходна ўстраніць прычыны, якія выклікалі запаленьне глоткі. Хворых жывёл належыць ізоляваць ад здаровых і даць ім прасторнае, багатае паветрам і сьвятлом, чыстае памяшканьне. Корм павінен быць добрастраўным, мяккім, вадкім і без раздражаючых матэрый. Пры павышанай тэмпэратуры і прыгнечанай перыстальтыцы добра ўжываць клізмы з халоднай вады. У мэтах выдаленьня рэштак стравы і сьлізі са страўніка можна ўжываць сродкі для ванітаваньня. На вобласьць глоткі рэкамэндуецца накладаць саграваальныя компрэсы з камфорным сьпіртам або змазваць гэтую вобласьць іхціолаваю мазьзю, пасьля чаго жывёла цёпла ўкутваецца. Можна ўжываць таксама інгаляцыю са шчолачамі. Пры слабай дзейнасьці кішочніка даюць унутр каламель, або сабур у выглядзе кашкі.

**Абсцэсы, якія зьяўляюцца, належыць як магчыма хутчэй ускрываць.**

1. *Rp.* Veratrin 0,03
   Spirit vini rectif. 5,0
   M. f. Solutio.
   D. S. Ванітнае для сьвіньні падскурна.

2. *Rp.* Pulv. Rod ipecacuanae
   Pulv. Rhis. veratriael.— aa 1,0
   M. f. Pulv.
   D. S. Ванітнае. Зьмяшаць з паўсталоваю лыжкаю мёду і намазаць шподэлям на корань языка. Можна даваць разам з цукрам і мукою ў выглядзе кашкі.

3. *Rp.* Calomel 3,0.
   D. S. На паўсталовую лыжку мёду, намазаць на корань языка.

4. *Rp.* Ichthyoli 2,0
   Vaselini albi 20,0
   M. f. unq.
   D. S. Наружнае. Для расьціраньня вобласьці глоткі.

*Заўвага*: Пры дозіроўцы ўлічваць рост і вагу жывёлы

## ПАРАЛЮШ ГЛОТКІ

**Этыолёгія**.—Паралюш глоткі як паўторнае захворваньне наглядаецца пры расстройствах цэнтральнай нэрвовай сыстэмы, пры некаторых інфэкцыйных захворваньнях (шаленства), а таксама пры атручваньнях плесьневымі глыбкамі.

**Сымптомы**. Немагчымасьць глытаць ежу і ваду, пры чым прынятая ежа і вада выліва-

юцца з роту назад. Акрамя таго, часамі наглядаецца сільнае цячэньне сьлюны і расстройства дыханьня.

**Дыягноз.** Раней за ўсё патрэбна выключыць пухліны-іншародныя целы ў глотцы. У далейшым распазнаваньне робіцца на аснове анамнэзу і клінічнага дасьледваньня.

**Прогноз.**- Няспрыяючы. Жывёла пры сільным прыгнечаньні звычайна праз некалькі (7-12) дзён гіне, прычым, у выніку пападаньня ў бронхі і лёгкія кармавых частачак пры спробах іх праглынуць, да паралюшу глоткі нярэдка далучаецца гангрэна лёгкіх.

Лячэньне Можна ўжываць вострыя ўціраньні ў вобласьці глоткі і падскурныя ўпырскваньні ўзбуджаючых сродкаў. У цяжкіх і зацяжных выпадках самае лепшае-вымушаны забой на мяса.

1. *Rp*. Strychnini Nitrici 0,003
Aq. destill. 5,0
M. t. s. Для падскурнай ін'екцыі

2. *Rp*. Ol. terebin phinae
Liq. ammon caust aa 5,0
Ol. Olivarum 15,0
M. t. lin.
D. S. Уціраць у вобласьць глоткі.

## ЗАПАЛЕНЬНЕ СТРАВАХОДУ—ЭЗОФАГІТ

**Этыолёгія.** Запаленьне страваходу можа быць мэханічнага паходжаньня. Звычайна эзофагіт разьвіваецца ў выніку праглатваньня

жывёлаю востраканечных цел, паяданьня гарачай, або празьмерна халоднай стравы, неасьцярожнага ўжываньня страваходнага зонду, няўмелага ўжываньня ванітнага камня і мыш'яку, узьдзейнічаньня кіслот, шчалачэй і інш. Запаленьне страваходу можа атрымацца таксама шляхам распаўсюджваньня запаленьня з суседніх органаў (стоматыты, ангіна).

**Сымптомы.** Пры лёгкім ходзе эзофагіту апошні застаецца амаль незаўважаным. Пры больш цяжкім—корм паядаецца з вялікімі намаганьнямі, жывёлы матаюць галавой, выцягваюць шыю, а ў выніку раздражненьня сьлізістай абалонкі, прынятая страва ванітнымі рухамі стрававоДнай мускулатуры нярэдка выкідваецца назад. Пагаршаючы стрававньне арганізму і абумоўліваючы захворваньні страўнікова-кішачнага тракту, эзофагіт вядзе да зьнясіленьня жывёлы.

**Дыягноз.** Распазнаць лёгка працякаючы эзофагіт цяжка.

Цяжкія-ж формы запаленьня страваходу часамі даецца распазнаць на падставе клінічных прызнакаў.

**Прогноз.** Просты катар страваходу пры адпавядаючым лячэньні праходзіць праз 6-8 дзён. Іншыя формы запаленьня могуць весьці да звужэньня страваходу. Пры гэтым асаблівая небясьпека ўзьнікае ад магчымасьці асьпірацыі

страўных мас, у выніку чаго атрымліваецца бронхопнэўматыя з пераходам апошняй у гангрэну лёгкіх.

**Лячэньне** Захварэўшым сьвіньням даюць піць умеранна халодную ваду і малако. Разам з тым ужываюць 0,5—1% раствор таніну ў адвары ільнянога семя і халодныя прымочкі ў вобласьці страваходу. Пры сільных болях і расстройстве глытаньня належыць ужываць хлорал—гідрат, або опій. У выпадках, якія не паддаюцца лячэньню, належыць забіць хворую жывёлу для утылізацыі на мяса.

1. *Rp.* Chloral Hydrati 2,0
D. S. Унутранае. На прыём з малаком загадзя растварыўшы.

2. *Rp.* Trae Opii simpl. 10,0
D. S. Унутранае. На прыём з вадкаю страваў.

*Увага*: Ня можна прыбягаць да гвалтоўнай дачы лякарстваў·

## СПАЗМЫ СТРАВАХОДУ—ЭЗОФАГІЗМ

**Этыолёгія** Сударожныя сьціскаьні страваходу могуць наступаць ад прыняцьця жывёлаю празьмерна халоднага, або гарачага корму, а таксама пры параненьні сьлізістай абалонкі цьвёрдымі прадметамі, якія паядаюцца. Паўторныя спазмы страваходу наглядаюцца пры шалу, эпілепсіі, аслупяненьні і часамі пры хваробах страўніка і кішок.

**Сымптомы** У час сударажных сьціскаьньняў страваходу прыём корму і глытаньне затруднена, жывёла становіцца неспакойнаю, выдзяляецца шмат сьліны, якая ў роце зьбіваецца ў пену, заўважаецца аддышка і сэрцабіеньне. Сьвіньні моцна супраціўляюцца ўвядзеньню страваходнага зонду, пры чым паяўляюцца ванітныя рухі.

**Дыягноз**. Спазмы страваходу можна зблытаць з закупоркай, запаленьнем або звужэньнем страваходу, але перамежны характар эзофагізму звычайна дае магчымасьць адрозьніваць дануюхваробу ад указаных.

**Прогноз.** Працяглы процэс хваробы абумоўлівае схуданьне жывёлы.

Лячэньне Неабходна ўстараніць прычыну эзофагізму. Пры сільным узбуджэньні нэрвовай сыстэмы раіцца ўжываць наркотычныя сродкі (хлорал—гідрат) або бромістыя солі.

1. *Rp.* Kali bromati 30,0
Aq. destill 300,0
M. t. Sol.

D. S. Па сталов. лыжцы дарослым (па чайнай дробным) два разы ў дзень з вадкім кормам або малаком.

2. *Rp.* Chloral-Hydrati 5,0
D. S. У клізму з цёплым сьлізістым адварам ільнянога семя.

## ЗАКУПОРКА СТРАВАХОДУ.

**Этыолёгія**. Закупорка стравaводу часьцей за ўсё сустракаецца ў прагаладаўшыхся сьвіней пры прагным паяданьні імі сырой бульбы або гародніны. Нам даводзілася наглядаць выпадкі закупоркі стравaходу на глебе глытаньня касьцей і кавалкаў шкла ад бутэлькі, у якой знаходзілася топленае сьлівачнае масла.

**Сымптомы**. Жывёла выцягвае шыю і доўга стаіць з адкрытым ротам. Прыём стравы і вады спыняецца. Калі-ж жывёла прымае корм, то ён зараз-жа выкідаецца назад. Закупорка, якая доўга цягнецца, мярэдка саправаджаецца нязначным уздуцьцём жывата і частай адрыжкай. Хворыя сьвіньні або зусім не кладуцца ці кладуцца на зусім кароткі час.

**Дыягноз**. Распазнаць хваробу ня цяжка, бо нечаканае зьяўленьне растройства глытаньня, адрыжка часамі з ванітнымі рухамі, уздуцьцё жывата, трапляючы на іншародныя целы стравaходны зонд—усё гэта разам узятае дазваляе паставіць верны дыягноз.

**Прогноз**. Прадказаньне залежыць як ад характару цела, якое закупорвае стравaход, а таксама і ад самой закупоркі яго. Калі закупорка зроблена вострымі прадметамі—прагноз павінен быць вельмі асьцярожным, бо ў такіх

выпадках можа атрымацца гнойнае, або іхорознае запаленьне страваходу.

Лячэньне Пры закупорцы цьвёрдымі страўнымі матэрыямі ўжываецца падскурнае ўпырскваньне ванітных сродкаў і прапіхваньне застраўшага камка страўнікавым зондам, калі-ж гэта застаецца бязрэзультатным, а таксама ў выпадках закупоркі зусім цьвёрдымі, або вострымі прадметамі, жывёла адпраўляецца на бойню.

1. *Rp.* Veratrini 0,03
Spir. vini rect. 5,0
M. D. S. Ванітнае—для
падскурнай ін'екцыі.

## ЗВУЖЭНЬНЕ СТРАВАХОДУ

**Этыолёгія**. Звужэньне страваходу часьцей за ўсё атрымоўваецца ў рэзультаце хровічных запаляльных процэсаў, якія ўзьнiклі на глебе раненьня сьценак страваходу аскёпкамі касьцей, або ў выніку дзеяньня на іх прыпякаючых ядаў.

**Сымптомы**. Наглядаецца затрудненае глытаньне сухога корму, а таксама сьлінацячэньне і ванітныя рухі. Глытаньне вадкага корму адбываецца больш свабодна. Пры разьвіваючымся звужваньні справа можа дайсьці да поўнай непраходнасьці страваходу. Звычайна стэноз

стравaходу абумоўлівае сільнае схудненьне і гібель жывёлы ад зьнясіленьня.

**Дыягноз.** Анамнэстычныя даныя, клінічныя назіраньні і дасьледваньні зондам даюць магчымасьць беспамылкова устанавіць дыягноз. Неабходна памятаць, што зондыраваньне трэба рабіць вельмі асьцярожна, бяз усякага прымусу, каб не атрымалася траўматызаваньня сьценак стравaходу.

**Прогноз.** Прадказаньне няспрыяючае. Чым мацней разьвіта звужаньне, тым быстрэй разьвіваецца зьнясіленьне, тым хутчэй падыходзіць сьмерць жывёлы. Хворых належыць зараз-жа утылізаваць на мяса.

## ВАНІТАВАНЬНЕ.

**Этыолёгія** Ванітаваньне абумоўліваецца рознастайнымі прычынамі. У сьвіней ванітаваньне звычайна служыць прызнакам рознастайных захворваньняў сыстэмы органаў стравaваньня. Перапаўненьне страўніка, большасьць запаленьняў страўніка-кішачнага тракту, непраходнасьць кішок, вострае запаленьне брушыны, фарынгіт, захворваньне стравaходу і т.д. усё гэта ёсьць такія хваробы, пры якіх вельмі частым сымптомам зьяўляецца ванітаваньне.

**Сымптомы.** Пасьля некаторага неспакойнага стану жывёлы частка ежы са страўніка, пера-

мешаная са сьлізьзю і жоўцьцю, выкідваецца праз рот. Пры адных захворваньнях ванітаваньне наглядаецца адзін раз, пры другіх паўтараецца некалькі разоў, працягваючыся іншы раз доўгі час. Упартае ванітаваньне наглядаецца напр. пры непраходнасьці кішок, пры некаторых захворваньнях цэнтральнай нэрвовай сыстэмы, а таксама пры запаленьнях страўніка. Калі ванітаваньне адбываецца на глебе цяжкага запаленьня, або язвы страўніка, то ў ванітных масах бывае кроў. Пры перапаўненьні страўніка кроўю, якую зьела жывёла, з ванітаваньнем выдзяляецца вялікая колькасьць кавалкаў крыві.

**Значэньне ванітаваньня і яго лячэньне.** Акт ванітаваньня становіць сабой абароннае прыстасаваньне жывёльнага організму. У выніку гэтага ванітаваньне пры некаторых захворваньнях (перапаўненьне страўніка, атручваньне прымаемай стравай, расьліннымі і лекавымі матэрыямі і д.т.п.) ня толькі ня трэба супыняць, але наадварот—штучна выклікаць дачай ванітных сродкаў. Аднак у іншых выпадках, калі ванітаваньне, якое часта паўтараецца, расстрайвае жыўленьне і вядзе жывёлу да схуданьня (напр. пры некаторых запаленьнях страўнікава-кішачнага тракту)—трэба імкнуцца спыняць ванітаваньне. Для спыненьня ванітаваньня ўжываюцца: халодныя компрэсы

ў вобласьці страўніка, наркотычныя сродкі, настойка рамашкі, (а таксама матэрыі выдзяляючыя вуглякіслату) сода.

1. *Rp.* Chloral Hydrat. 6,0
D. S. На клізму у цёплым сьлізістым адвары Супакойваючае.

2. *Rp.* Trae Opii silipat — 5,0
D. S. На адзін прыём 2-3 разы ў дзень у малаку, або вадкой страве

3. *Rp.* Flör. Chonomileae 3,0
D. S. У форме н стоя з вадкім кормам на адзін прыём супроцьсударажнае.

4. *Rp.* Natri Bicarbon. 3,0
D. S. На адзін прыём з вадкаю страваю.

5. *Rp.* Kali Bromati 0,5
D. S. У форме раствору з вадкаю страваю 2-3 разы ў дзень.

## ОСТРЫ КАТАР СТРАЎНІКА

**Этыолёгія** Прычынаю вострага катару зьяўляецца нерацыянальнае кармленьне, калі прагаладаўшым сьвіньням даюць, хоць і добраякасны корм, але ў празьмерна вялікай колькасьці, або праз няроўнамерныя прамежкі часу. Часьцей-жа за ўсё катар страўніка выклікаецца паяданьнем сапсаваных кармавых матэрый, мёрзлай або згніўшай бульбы і караньплодаў, заплесьнеўшых—мукі, рэштак хлеба, кухонных памый, прагорклага малака і д. т. п. Нярэдка катар страўніка ўзьнікае ў рэзультаце празь-

мерна гарачай або халоднай стравы, а таксама пры неасьцярожным ужываньні ўнутрана-раздражняючых лякарстваў. Паўторны катар наглядаецца пры некаторых інфэкцыйных і інвазыонных захворваньнях, (чума, сэпцымія, рожа, фабрынозная пнэўмонія і інш). Момантам, які спрыяе катаральнаму запаленьню страўніка, зьяўляецца ўтрыманьне сьвіней у цесных, душных, з дрэннай вэнтыляцыяй памяшканьнях. Пры такіх умовах організм жывёлы наогул становіцца менш рэзытэнтным да розных хвораттворных агентаў.

**Сымптомы.** Першапачатковымі прызнакамі катару страўніка зьяўляецца паменшаны апэтыт і прыгнечаны выгляд жывёлы. Хворыя больш ляжаць, зарываючыся часамі ў подсьціл.

Заўважаецца ўзмоцненая смага. Пасьля прыёму корму часта паяўляецца ванітаваньне, пры якім выкідаюцца прынятыя страўныя масы, зьмешаныя са сьлізьзю. Пасьля ванітаваньня становішча хворых звычайна паляпшаецца. Тэмпэратура цела некалькі павышана, аднак хвост і вушы халодныя навобмацак. Відомыя сьлізістыя абалонкі чырвоныя, пятачок сухі, хворыя праяўляюць неспакойнасьць, якая праяўляецца ў частай перамене іммі месца. Пры пальпацыі страўніка апошні бывае вельмі чулым. Калі ў пачатку сухі, пакрыты сьлізістаю

плеўкай, потым становіцца капішчападобным і сьмярдзючым.

**Дыягноз.** Расстройства апэтыту, прыгнечанае становішча жывёлы, ванітаваньне, затрымка дэфэкацыі, сухі, пакрыты сьлізістай плеўкай кал—усё гэта ёсьць такія клінічныя прызнакі, якія даюць магчымасьць больш, або менш дакладна паставіць дыягноз і ня зблытаць востры катар страўніка з іншымі захворваньнямі.

**Прогноз.** Прадказаньне залежыць ад своечасовага ўстраненьня прычын, якія выклікалі захворваньне. Лёгкія выпадкі катара пры гэтай умове канчаюцца выздараўленьнем на працягу 1-2 тыдняў. Аднак, прадказаньне трэба рабіць асьцярожна, бо катаральнае запаленьне страўніка можа перайсьці ў гнойна-катаральнае, да якога нярэдка далучаецца і катар кішок. Акрамя таго востры катар страўніка часамі прымае хранічную форму, якая трудна паддаецца лячэньню і вядзе жывёлу да зьнясіленьня.

Лячэньне. Адразу пасьля ўстараненьня прычын, якія выклікалі катаральнае запаленьне страўніка, належыць паклапаціцца аб вызваленьні страўніка і кішок ад масы, якая ў іх знаходзіцца. Пры перапаўненьні страўніка з гэтай мэтаю ўжываюць ванітныя сродкі (вератрын, корань іпекакуаны, карнявішча чамярыцы). Для ачышчэньня кішэчніка добрыя

вынікі даюць рыцынавае масла і каламель. Разам з гэтым устанаўліваецца адпавядаючая дыэта. Хворым трэба даць цёплае, багатае сьвятлом і паветрам памяшканьне, часта зьмяняць сухую падсьцілку і пры неабмежаванай колькасьці нехалоднай, чыстай вады даваць умераную колькасьць лёгкастраўнай ежы. Для тых, якія выздараўліваюць, добра прыбаўляць да корму кіслату і штучную карлсбацкую соль.

1. *Rp.* Veratrini 0,03
spirit. vini rect 5,0
Mtsol.

D. S. Для падскурнай ін'екцыі. Ванітнае.

2. *Rp.* Pulv. Rad. Ipecacuannae 2,0
Tartari stiliati 0,5
Sacchari lactici 3,0
M.t. Pulv.

D. S. З мукою ў выглядзе кашкі намазаць на корань языка. Ванітнае.

3. *Rp.* Pulv. Rad. Ipecacuannae 2,0
Rhis. veratri pulv. 1,0
Mt. Pulv.

D. S. З цукрам і мукою ў выгляд. кашкі. Ванітнае.

4. *Rp.* Ol. Ricini 60,0

D. S. На адзін прыём, асьцярожна заліваць маленькімі порцыямі за шчаку. Слабіцельнае.

5. *Rp.* Acid. Muriat. dil. 70,0

D. S. Па чайнай лыжцы два разы ў дзень з кормам.

6. *Rp.* Sal. carolini fact. 100,0
Stilium Sulfurat. nigri 10,0
Mt. Pulv.

D. S. Па чайнай лыжцы два разы ў дзень з кормам.

## ХРОНІЧНЫ КАТАР СТРАЎНІКА

**Этыолёгія.** Хронічны катар страўніка, або разьвіваецца з вострага, або атрымліваецца самастойна. У тым і другім выпадку хронічны катар страўніка звычайна зьяўляецца вынікам немэтазгоднага ў колькасных і якасных адносінах кармленьня. Інагды хронічны катар страўніка разьвіваецца ў рэзультаце сьпешнай яды і недастатковага перажоўваньня корму, што напр., наглядаецца пры кармленьні сьвіней з аднаго карыта. Такім-жа чынам да хранічнага катару страўніка прыводзяць папсаваныя зубы, а таксама захворваньне печані.

**Сымптомы**. Клінічныя прызнакі хронічнага катару страўніка амаль тыя-ж, што і вострага, толькі пры хронічным яны выражаны менш інтэнсыўна. Хворыя страдаюць адсутнасьцю апэтыту і худнеюць. Разам з тым у некаторых часамі зьяўляецца такі апэтыт, што яны з прагатавітасьцю накідаюцца абы на якую страву. Непасрэдна пасьля яды наглядаецца ванітаваньне, пры якім разам з масамі стравы ў вялікай колькасьці выкідаецца цягучая сьлізь. Страўнік пры націсканьні баліць.

**Дыягноз.** Распазнаць хронічны катар страўніка звычайна ня цяжка. Але для гэтага акрамя падрабязнага анамнэзу неабходна дакладнае і доўгае нагляданьне за захварэўшаю жывёлаю.

**Прогноз**. Прадказаньне пры хронічным катары страўніка ўвогуле нясарыяючае. Пры хранічных запаленьнях адбываюцца зьмены сьлізістай абалонкі—поўнасьцю звычайна не аднаўляюцца.

Лячэньне. Лячэньне хронічнага катару страўніка галоўным чынам дыэтычнае. Іншы раз мэтазгодным выбарам кармавых матэрый і правільным утрыманьнем жывёлы ўдаецца ўстраніць асноўныя клінічныя прызнакі хронічнага катару. Мэдыкамэнты належыць ужываць толькі папутна з рэгуляваньнем дыэты. З мэдыкамэнтаў тут можна назваць салянуую кіслату, сярэднія солі, асабліва штучную карлсбацкую соль, а таксама горкія сродкі: корань гарачоўка, корань коламбо, рэвень і інш. Пры гэтым указаныя мэдыкамэнты рэкомэндуецца ўжываць доўгі час.

1. Rp. Acid. hidrochlor 15,0
Aq. tontanae 300,0
M. D. S. Па сталов. лыжцы ў вадкі корм. Унутранае.

2. Rp. Sal. carolini fact 100,0
Pulv. Rad. qentiannae 30,0
M. t. Pulv.
D. S. Па чайнай лыжцы раніцой і ўвечары ў корме.

3. Rp. Pulv. Kal. Golombo 5,0
D. S. Па аднаму парашку ў дзень з корм.

4. Rp. Sal. carolini fact. 70,0
Pulv. Rad. Cali 15,0
M. D. S. Па чайнай лыжцы ў корм.

## РАСШЫРЭНЬНЕ СТРАЎНІКА.

**Этыолёгія**. Расшырэньне страўніка атрымоўваецца ў выніку таго, што сілы, якія служаць для прасоўваньня страўнічнай масы ў кішэчнік, становяцца недастатковымі. Падобныя становішчы разьвіваюцца ў трох выпадках: 1) калі ў выхадной адтуліне страўніка зьяўляюцца надзвычайныя перашкоды; 2) калі аслабляецца мускулатура страўніка; і 3) калі прынятая ў страўнік маса празьмерна вялікая. Некаторыя з гэтых прычын маюць часовы характар і абумоўліваюць вострае расшырэньне, другія розьнячыся сталасьцю дзеяньня, выклікаюць хронічнае расшырэньне. Так у хцівых абжорлівых сьвіней прыняцьце празьмернай колькасьці трудна пераварваемага сухога, або лёгка падпадаючага брузаваньню корму (бульба, хлеб, буйназмолатае збожжа, націна караньплодаў, страўнікавыя плады) цягне за сабою вострае расшырэньне страўніка. Хронічны-ж катар страўніка аслабляе мускулатуру страўніка, можа выклікаць хронічнае яго расшырэньне.

**Сымптомы**. Пры расшырэньні з боку страўніка наглядаюцца процэсы двух відаў—хэмічныя і фізычныя. Хэмічныя—адбываюцца ў выніку таго, што страўнічная маса, застойваючыся, падпадае ненормальнаму брузаваньню і нават гнілоснаму разлажэньню. Фізычныя зьмены датычацца амаль выключна павялічэньня аб'ёму

страўніка. Між іншым у сьвіней сур'ёзныя растройствы страваваньня пры вострым расшырэньні страўніка наглядаюцца параўнальна рэдка дзякуючы таму, што ванітаваньне, якое лёгка выклікаецца, вызваляе страўнік ад лішняй масы. Карціна вострага расшырэньня страўніка ў іх разьвіваецца галоўным чынам пры немагчымасьці ванітаваньня ў выпадках перапаўненьня страўніка сухім, або грубым кормам. У такіх выпадках наглядаюцца бязрэзультатныя ванітныя рухі, сьлінацячэньне, уздуцьцё спачатку левага падрабер'я, потым правага і ўрэшце ўсяго жывата. Жывёла пры гэтым часамі пішчыць, часта мяняе месца. Пульс пачашчаецца, дыханьне робіцца цяжкім.

**Дыягноз.** Дыягноз на расшырэньне страўніка ставіцца на падставе клінічнага дасьледваньня і анамнэзу.

**Прогноз.** Прадказаньне залежыць як ад магчымасьці ўстраненьня прычын хваробы, так і ад таго—на колькі сваячасова ўжыта лячэньне.

Лячэньне. Тэрапія расшырэньня страўніка зводзіцца да ўжываньня ванітных сродкаў, якімі і дасягаецца вызваленьне страўніка ад празьмернай колькасьці масы.

1. *Rp.* Capri Sulfurici 1,0
D. S. Ванітнае. З мукою ў выглядзе кашкі, растварыўшы парашок загадзя ў гарачай вадзе

2. *Rp.* Veratrini 0,03
Spir. vini rectif. 5,0
M. t. Sol.
D. S. Ванітнае, падскурнае.

## ІНШАРОДНЫЯ ЦЕЛЫ Ў СТРАЎНІКУ.

**Этыолёгія**. Іншародныя целы ў страўніку ў сьвіней сустракаюцца пры праглынаньні імі рознастайных прадметаў (аскепкаў касьцей, кавалкаў дрэва, птушынага пер'я, шэрсьці і д. т. п.)

**Сымптомы**. Увогуле клінічная карціна іншародных цел у страўніку амаль супадае з прызнакамі такой-жа пры катаральным запаленьні страўніка: адсутнасьць апэтыту, частая перамена месца, боль пры націсканьні на жывот. У рэдкіх выпадках праглынутыя вострыя прадметы могуць выклікаць сьмяртэльнае праколваньне страўніка.

**Дыягноз**. Дыягноз на іншародныя целы ў страўніку, дзякуючы падабенству клінічнай карціны з вострым катарам страўніка, часам надзвычайна затруднены. Нярэдка прыходзіцца ставіць няпэўны дыягноз, кіруючыся галоўным чынам данымі анамнэзу.

**Прогноз**. Прадказаньне асабліва пры вострых прадметах у страўніку няспрыяючае.

Лячэньне. Калі іншароднымі целамі, якія знаходзяцца ў страўніку, зьяўляюцца шары з шэрсьці ці воласаў, пер'я можна ўжываць ванітныя сродкі, калі-ж іншародныя целы цьвёрдыя і з вострымі канцамі, то такіх хворых належыць сваячасова накіраваць у бойню.

*Заўвага*: Рэцэпты на мэдыкамэнты, якія ўжываюцца, тыя-ж, што і пры вострым расшырэньні страўніка.

## ВОСТРЫ КАТАР КІШЭЧНІКА

**Этыолёгія.** Востры катар кішак наглядаецца надзвычайна часта. Зьяўляецца ён або як самастойная хвароба, або разьвіваецца паўторна. Самымі частымі прычынамі першачнага катару кішак зьяўляюцца колькасныя і якасныя паграшнасьці ў кармленьні. Пры няўмерным кармленьні, сокі страваварэньня ня могуць належным чынам перапрацоўваць у празьмернай колькасьці паступаючую ў кішэчнік кашыцу ежы. Апошнія такім чынам падпадаюць у кішачным канале ненормальнаму разлажэньню, прычым продукты гэтага разлажэньня раздражняюць сьлізістую абалонку кішак і прыводзяць яе ва ўспаляльнае становішча. Аналёгічным чынам дзейнічаюць нядобраякасныя кармавыя матэрыі, з якіх можна тут назваць: затхлую балотную ваду, заплесьнялую муку, рэшткі хлеба, падгніўшую бульбу. Значную ролю ва ўзьнікненьні вострага катару кішак могуць адыгрываць таксама мікроорганізмы, напр., пры кармленьні сьвіней прагніўшым мясам. Прычынай вострага катару кішак таксама служаць чэрві-паразіты, калі наглядаліся выпадкі катара кішак у выніку паяданьня конскага калу. Нярэдка прадпасылкай да катару зьяўляецца прастуда, такія напр. выпадкі катаральных запаленьняў кішэчніка, пасьля нечаканага дзеяньня халоднага дажджу ці ветру. Нарэшце,

няўмелае ўжываньне мэдыкамэнтаў (напр. праносных сродкаў) можа выклікаць таксычны кішачны катар. У другі раз катар кішак наглядаецца пры вельмі многіх інфэкцыйных захворваньнях.

**Сымптомы**. Клінічныя прыметы вострага кішачнага катару не ва ўсіх выпадках аднолькавыя і залежаць ад лёкалізацыі запаляльнага процэсу ў тым або іншым аддзеле кішэчніка. Аднак рэзкай мяжы, якая б падзяляла запаленьні асобных вучасткаў кішэчнага каналу, правесьці звычайна немагчыма. Самым пастаянным сымптомам катару кішэчніка зьяўляецца панос. Хворыя сьвіньні выпаражняюцца часьцей звычайнага, прычым консыстэнцыя дрэнна пахнучых мас калу, то больш шчыльная, то падобная кашыцы, то вадкая, то вадзяністая. Амаль заўсёды ў фэкальных масах знаходзяць неператраваныя рэшткі ежы. Тэмпэратура цела некалькі павышаная. Хворыя жывёлы нярэдка закапваюцца ў подсьцілку. Смага ўзмоцнена, што як відаць стаіць у сувязі са значнаю тратаю вады з выпаражненьнямі. Апэтыт можа заставацца бяз зьмен, асабліва, калі катарам пашкоджан пераважна тоўсты аддзел кішэчніка.

**Дыягноз**. Распазнаваньне робіцца на аснове даных анамнэзу і клінічнага наглядаваньня.

**Прогноз**. У лёгкіх выпадках хворы кішачны катар працягваецца ўсяго 2-3 дні. У цяжкіх

выпадках ён можа прыняць зацяжны характар, абумоўліваючы зьнясіленьне і нават сьмерць жывёлы.

Лячэньне. Раней за ўсё неабходна адхіліць прычыны, якія выклікалі захворваньне. Хворым жывёлам даецца цёплае, сухое з вялікай колькасьцю сьвятла і паветра памяшканьне, надзвычайна важнае значэньне пры лячэньні кішачных катараў мае кармленьне. Першыя 1-2 дні хворых належыць трымаць на галоднай дыэце. У далейшым корм павінен быць добрае якасьці і лёгка пераварвацца. Мэдыкамэнтарнае лячэньне ў пачатковых стадыях хваробы мае на мэце ачысьціць кішэчнік, для чаго сьвіньням назначаюць лёгкія слабіцельныя (рыцынавае масла, каломэль). Пасьля гэтага добра ўжываць унутр дэзынфэкцырукочыя сродкі (крэолін, лізол, рэзорцын). Добрыя паслугі аказваюць таксама сярэднія солі (карлсбадзкая соль, саляная кіслата), а пры сільных паносах настойка опію, або опій у парашку, танін, танальбін, танаформ. Пры катары тоўстых кішак рэкамэндуецца ўжываць клізмы з вяжучых і дэзынфэкцыруючых сродкаў.

1. *Rp.* Ol. Ricini 70,0
Pulv. Rad Liquiritiae q.s.
M. f. elect.
D. S. Намазаць на корань языка. Слабіцельнае.

2. *Rp.* Calomel 2,0
D. S. На 1/2 сталовую лыжку мёду. Намазаць на корань языка.

3. *Rp.* Creolini 1,0
D. S. На паўсталовую лыжку мёду, або з цукрам і мукою ў выгляд. кашкі. Дэзынфэкцыруючае.

4. *Rp.* Tannalbini 20
Acidi Salicyl. 1,0
Mf. Pulv.
D. S. На адзін прыём у выглядзе кашкі пры паносе

5. *Rp.* Opii pulv. 1,0
Salol 0,5
Bismut Sub nitrici 1,0
M. t. Pulv.
D. S. На адзін прыём у выглядзе кашкі пры паносе.

6. *Rp.* Acidi Tannici. 3,0
D. S. У сьлізістым адвары ў выгляд. клізмы. Пры катары тоўстых кішак.

7. *Rp.* Sal. carolini fact. 100,0
Pulv. Rad. colombo 20,0
M. D. S. У корм па чайнай лыжцы 2 разы ў дзень.

## ХРОНІЧНЫ КАТАР КІШАК.

**Этыолёгія.** Хронічны катар кішак разьвіваецца самастойна або ўтвараецца з вострага. Найбольш частай прычынаю хронічнага катару кішак зьяўляецца кармленьне сапсаванымі кармавымі матэрыямі.

**Сымптомы.** Пры хронічным катары кішак раней за ўсё зьвяртае на сябе ўвагу неаднолькавасьць апэтыту: сьвіньні часамі ядуць зусім нормальна, а іншы раз цэлымі днямі, амаль зусім адмаўляюцца ад корму. Жывот у большай частцы падцягнуты. Дэфэкацыя расстроена, нярэдка наглядаюцца запоры, якія цягнуцца некалькі дзён і зьмяняюцца паносамі. Скура сухая і мала элястычная, сьлізістыя абалонкі бледныя.

**Дыягноз**. Калі ня лічыць дакладнага вызначэньня лёкалізацыі запаляльнага процэсу ў кішэчніку, распазнаваньне хваробы ня цяжкае. Пастаноўцы дыягнозу дапамагае высьненьне ўсіх этыолёгічных момантаў захворваньня, якое атрымліваецца ў анамнэзе.

**Прогноз**. Даўжыня хронічнага катару кішак можа лічыцца месяцамі і без адпавядаючага лячэньня звычайна прыводзіць вялікіх жывёл да поўнага зьнясіленьня і сьмерці. Наогул хронічны катар кішак належыць заўсёды лічыць сур'ёзным захворваньнем.

**Лячэньне.** Самае галоўнае—рацыянальнае кармленьне, толькі правільным кармленьнем, лёгка пераправаўнымі стрававымі матэрыямі, часамі можна спыніць або затрымаць разьвіцьцё хронічнага катару кішак. Акрамя таго, пры наяўнасьці запораў назначаюць лёгкія слабіцельныя (рыцынавае масла), а для ўпарадкаваньня дзейнасьці кішэчніка добрую паслугу аказвае карлсбадэкая соль разам з горкімі сродкамі (корань гарачоўкі, колёмбо і г. д)

1. *Rp.* Pulv. Rad. Gentrianae 15,0
Sal. carolini fact. 75,0
Mf. Pulv.
D. S. У корм па чайнай лыжцы два разы ў дзень.

2. *Rp.* Pulv. Rad. Colombo 3,0
Df. D. № IV
D. S. Па парашку ў дзень з кормам.

## СПАЗМЫ КІШЭЧНІКА.

**Этыолёгія.** Прычыннымі момантамі звычайна зьяўляюцца ахалоджваньне цела, знаходжаньне жывёлы на дажджы ў халодную пагоду, прыём халоднага або мёрзлага корму, а таксама паяданьне сапсаваных, нядобраякасных страўных матэрый.

**Сымптомы.** Галоўным прызнакам спазм кішэчніка зьяўляюцца колікі, г. зн. кішэчная боль, якая выклікае неспакойнасьць жывёлы: сьвіньні часта кладуцца, стогнуць, крэкчуць, або моцна ўскрыкваюць. Пасьля выпаражненьня звычайна наступае некаторае палягчэньне.

**Дыягноз.** Распазнаваньне спазмаў кішэчніка адбываецца на аснове даных анамнэзу і асабліва клінічнай карціны колікаў: прыступы боляў, неспакойства жывёлы, адсутнасьць павялічэньня жывата і інш.

**Прогноз.** Прадказаньне амаль заўсёды няспрыючае. У лёгкіх выпадках колікі працягваюцца 5-10 мінут, а ў выключных выпадках 3-6 гадзін. Колікі, якія часта паяўляюцца, залежаць ад няўстранімасьці прычын, выклікаючых спазмы кішэчніка.

**Лячэньне.** Пасьля ўстараненьня прычын, якія выклікалі захворваньне, ужываюць супроць спазм кішэчніка цёплыя компрэсы на жывот і цёплыя клізмы. Пры сільных болях

добра ставіць клізмы з хлорал-гідрату. Акрамя таго рэкомэндуецца назначаць лёгкія слабіцельныя. У наступным неабходна рацыянальнае кармленьне.

1. *Rp*. Chloral Hydrat 6,0
D. S. У сьлізістым адвары ў выглядзе клізмы

2. *Rp*. Ol Ricini 50,0
Pulv. Rad. Althaeae q. s.
Mf. elect.
D. S. На адзін прыём. Слабіцельнае.

3. *Rp*. Calomel 3,0
D. S. З мёдам на адзін прыём. Слабіцельнае.

## ЗАПАЛЕНЬНЕ СТРАЎНІКА І КІШАК ГАСТРОЭНТЭРЫТ

Пад назваю запаленьня страўніка і кішак аб'яднаюцца ўсе больш інтэнсыўныя запаляльныя процэсы, якія адбываюцца ў страўніку ці кішэчніку, звычайна-ж у тым і ў другім адначасова, і саправаджаюцца крывяцячэньнем, нагнаеньнем або ўтварэньнем сапраўдных крупозных плёнак ці нэкрозам тканіны. Хоць гэтыя процэсы не становяць сабою адзінай патолёгічнай формы, тым ня менш, пакуль больш дакладныя дасьледваньні не дазволяць падзяліць іх на паасобныя патолёгічныя формы,мы прымушаны іх разглядаць у адным разьдзеле.

**Этыолёгія.** Запаленьне страўніка і кішак у некаторых выпадках разьвіваецца з катару страўніка, або катару кішак. Гастроэнтэрытам

сьвіньні ня рэдка захворваюцъ пасьля зьяданьня папсаваных, паражоных плесьнявымі грыбкамі кармавых матэрый: гнілых, або брузуючых караньплодаў, заплесьнелага зерневага корму і г. д. Немалаважную ролю ва ўзьнікненьні запаленьня страўніка і кішак адыгрывае няўмелая дача едкіх мэдыкамэнтаў. Акрамя таго, прычынаю можа служыць кармленьне сьвіней інфэцыраваным або сапсаваным мясам, якое мае ў сабе патогенныя бактэрыі, іх таксіны і птомаіны.

**Сымптомы.** Галоўнейшмі сымптомамі запаленьня страўніка і кішак зьяўляюцца адсутнасьць апэтыту і частае паяўленьне ванітаваньня, пры якім іншы раз выкідаюцца крывяныя масы. Націсканьне ў вобласьці жывата выклікае вялікую боль. Кішэчныя шумы пры пераважнай болі ў страўніку амаль ня чутны і наглядаецца запор, а пры пераважным пашкоджаньні кішэчніка—кішачныя шумы ўзмацняюцца і зьяўляецца панос. Сьмярдзючы кал часта бывае з кроўю, або кавалкамі тканак.

**Дыягноз.** Распазнаваньне гастроэнтэрыту адбываецца на падставе вышэйуказаных клінічных прызнакаў.

**Прогноз.** Прадказаньне ўвогуле ня спрыяючае. У цяжкіх выпадках сьмерць можа падыходзіць на працягу некалькіх дзён. Прогноз пагаршаецца асабліва пры паяўленьні крывавага паносу.

**Лячэньне.** З прычыны таго, што ў большасьці выпадкаў запаленьне страўнікова-кішэчнага тракту адбываецца на глебе кармленьня нядобраякасным кормам,—то раней за ўсё належыць паклапаціцца аб палепшаньні рацыёну і магчыма хутчэйшым вызваленьні страўніка і кішак ад знаходзячайся ў іх масы ўжываньнем ванітных і слабіцельных сродкаў. Пасьля гэтага належыць прадэзынфэкцыраваць кішэчнік, для гэтай мэты ўжываюць унутр рэзарцын, крэолін, нафталін, саліцылавую кіслату і інш. Пры паносах добрае дзеяньне аказваюць сьлізістыя і вяжучыя сродкі. Супроць боляў у жываце рэкамэндуюць опій і цёплыя ўкутваньні жывата. Аднак, ня варта забываць, што асновай профіляктыкі і лячэньня гастроэнтэрыту зьяўляецца мэтазгоднае кармленьне жывёл.

1. *Rp.* Veratrini 0,03
   Spir. vini rect. 5,0
   Mf. Sol.
   D. S. Ванітнае Для падскурнай ін'екцыі на адзін прыём.
2. *Rp.* Tartari Stibiati—1,0
   Rad. Ipecacuannae pulv 3,0
   M. D. S. Ванітнае. На адзін прыём у выглядзе кашкі.
3. *Rp.* Ol. Ricini 75,0
   D. S. На адзін прыём.
4. *Rp.* Resorcini — 0,5
   D. S. У выглядзе кашкі з цукрам і мукою, загадзя растварыўшы ў гарачай вадзе. Дэзынфэкцыруючае і супроцьбрузавальнае.
5. *Rp.* Opii pulv. — 2,0
   Acid. Salicyl. — 1,0
   Mf. Pulv.
   D. S. На адзін прыём у выглядзе кашкі.

## УЗДУЦЬЦЁ КІШАК—МЭТЭОРЫЗМ

**Этыолёгія.** Уздуцьцё кішак заключаецца ў празьмерным расьцяжэньні кішэчніка газамі, якія хутка разьвіваюцца пасьля прыёму нядобра якасных кармоў: сільна прарошчай, або падгніўшай бульбы, пракіслых кухонных адкідаў, вялага бацьвіньня караньплодаў, буйна змолотай кукурузы, або ячменю і інш. Уздуцьцё кішак атрымоўваецца таксама ў рэзультаце іх непраходнасьці: унутраных ушчамленьняў, завароту і пры трамбозе брыжжачных судзін.

**Сымптомы**. Сьвіньні неспакойныя, часта мяняюць месца, часамі стогнуць. Разам з тым наглядаецца адрыжка, ванітныя рухі і самае ванітаваньне.

**Дыягноз.** Дыягноз на мэтэорызм ставіцца пры наяўнасьці павялічэньня аб'ёму жывата, тымпанічнага гуку пры пэркусіі, ванітных рухаў і адпавядаючых даных анамнэзу.

**Прогноз.** Даўжыня мэтэорызму залежыць ад прычыны, якая яго выклікала. Звычайна ўздуцьцё кішак цягнецца некалькі гадзін.

**Лячэньне.** Ужываюцца халодныя абкручваньні жывата, увядзеньне ў прамую кішку халоднай вады. У некаторых выпадках можна раіць размінаньне і масаж жывата, а таксама дачу ўнутр ванітных і лёгкіх слабіцельных сродкаў.

*Заўвага.* Глядзі адпавядаючыя рэцэпты вышэй.

## ЗАСТОЙ ЗЬМЕСЬЦІВА КІШАК. ЗАПОР.

**Этыолёгія**. Часьцей за ўсё застой ежы ў кішэчніку адбываецца ў выніку карменьня сухім збожжавым кормам, або дробнаю сечкаю. Атрымоўваецца ён таксама пасьля зьяданьня вялікай колькасьці пяску. Часамі прычынаю застою ежы ў кішэчніку бывае адсутнасьць рухаў, пастаяннае знаходжаньне ў сьвінарніку. Як паўторная зьява застой ежы ў кішэчніку наглядаецца пры хронічнай форме чумы, пры тубэркулёзе і пры звужваньні кішак.

**Сымптомы**. Прызнакамі запору кішак зьяўляюцца: зьмяншэньне апэтыту, узмацненьне смагі, нязначны неспакой жывёлы, частыя рухканьні і патугі да выпаражненьняў. У пачатку захворваньня жывёла яшчэ можа выцісьнуць некалькі камкоў калу, але ў далейшым зьяўляецца поўная затрымка выпаражненьняў. Пры гэтым пальпацыяй жывата ў ня вельмі тлустых сьвіней лёгка прашчупваецца набітая сухімі масамі тоўстая кішка. У некаторых выпадках выяўляецца зрашчваньне кішэчных пецель у адзін пакет. Нярэдка да запору далучаецца запаленьне кішэчніка.

**Дыягноз** Пазнаваньне вытвараецца на аснове клінічнага дасьледваньня і даных анамнэзу.

**Прогноз**. Прадказаньне залежыць ад магчымасьці больш або менш хуткага ўстраненьня

прычын, якія выклікалі захворваньне. Лёгкія выпадкі запору пры сваячасовым лячэньні канчаюцца выздараўленьнем на працягу 1-2 дзён. Увогуле прадказаньне трэба рабіць асьцярожна, бо часамі да запору далучаецца запаленьне кішэчніка, якое можа пацягнуць за сабой сьмерць.

Лячэньне. Уліваньнем per Recti вялікіх колькасьцяй вады (2-4 літры), выдаленьнем калавых мас, што скапіліся ў прамой кішцы і дачай слабіцельных у большасьці выпадкаў удаецца ўстраніць застой калавых мас. Акрамя таго, мэтазгодна назначаць ванітны камень, рыцынавае масла, або каломель. У рацыён хворых сьвіней належыць увесьці зялёны корм або клубнявыя расьліны, апаўшыя фрукты, тыкву, кіслае малако, сыроватку.

1. *Rp.* Eserini 0,005
   Aq. destill. 5,0
   Mf. Sol.
   S. Для падскурнай ін'екцыі.

2. *Rp.* Calomel 4,0
   D. S. З цукрам і мукою ў выглядзе кашкі.

3. *Rp.* Sal carol. fact. 10,0
   Dtd № VI.
   S. Па аднаму парашку ў дзень.

4. *Rp.* Ol. Ricini 100,0
   D. S. На адзін прыём. Слабіцельнае.

## ЗВУЖЭНЬНЕ КІШОК.

**Этыолёгія.** Захворваньні, якія сюды адносяцца, бываюць двух відаў: 1) звужаньні, 2) закрыцьцё прасьвету кішок, пры чым нярэдка

наглядаецца, што звужэньне пераходзіць у закрыцьцё кішочнага прасьвету. Прычына, выклікаўшая захворваньне, у залежнасьці ад свае сілы можа абумоўліваць то звужэньне, то поўнае закрыцьцё. Прычыны стэнозу кішкі крыюцца або ў зьменах кішэчнай масы, або ў паталёгічных процэсах кішэчнай сьценкі, або захворваньнях суседніх органаў і тканяй. Вельмі часта стэноз разьвіваецца пасьля выдаленьня выпаўшай прамой кішкі пры дапамозе лігатуры (Sohne). Іншы раз зьявы звужэньня, або закрыцьця узьнікаюць на глебе глытаньня іншародных цел,якія закупорваюць прасьвет кішкі. Між іншым нярэдкія выпадкі, калі праз кішачны канал праходзяць назвычайна аб'ёмістыя целы бяз усякага пашкоджаньня. Нарэшце ўшчымленьні грыжы, зусім зразумела, удзельнічаюць у пахаджэньні ня толькі стэнозу, але і закрыцьця кішэчнага прасьвету. Акрамя гэтага іншародныя целы, якія праглынаюцца, траўматызуючы сьлізістую абалонку кішэчніка, могуць выклікаць такія процэсы ў кішэчнай сьценцы, у рэзультаце якіх таксама разьвіваецца звужэньне, або закрыцьцё.

**Сымптомы**. Дэфэкацыя пры звужваньні кішак затрымана, а пры іх закрыцьці зусім спынена. Ашчупваньне жывата выяўляе шчыльныя, цьвёрдыя целы ў кішэчных петлях. Гэта ёсьць вучасткі непраходнасьці кішэчніка. У некаторых выпадках можа прашчупаць павялічэньне аб'ёму

таго або другога з брушных органаў, які, ўтвараючы даўленьне на кішку, выклікаў яе стэноз.

**Дыягноз.** Зьбіраньне падрабязнага анамнэзу, нагляданьне за клінічнаю карцінай і ашчупваньне жывата звычайна даюць магчымасьць выказацца за наяўнасьць стэнозу кішак толькі ўмоўна.

**Прогноз.** Прадказаньне пры звужэньні кішак больш спрыяючае чым, пры закрыцьці. У вогуле-ж прогноз няспрыяючы, жывёла пры гэтым нярэдка гіне ад разрыву страўніка або кішак.

Лячэньне. Усе тэрапэўтычныя спосабы павінны быць накіраваны да ўстараненьня прычыны стэнозу. У некаторых выпадках мэтазгодна назначаць лёгкія слабіцельныя. Аднак, калі звужэньне выклікана ўшчэмленай грыжай, або празьмерна вялікім іншародным целам, то нявартa ўжываць слабіцельныя, бо ў першым выпадку слабіцельныя сродкі будуць садзейнічаць яшчэ большаму ўшчамленьню, а пры наяўнасьці іншароднага цела можа ўзьнікнуць сьмяртэльная закупарка кішкі. Пры немагчымасьці хуткага ўстараненьня прычыны стэнозу кішкі жывёл належыць утылізаваць на мяса.

1. *Rp.* Ol. Ricini 60,0
D. S. На прыём у
выглядзе кашкі.
Унутранае.

## ЖАЎТУХА

**Этыолёгія.** Жаўтуха часьцей за ўсё нагляdаецца пры катары страўніка і дванаццаціперснай кішкі, а таму ў большасьці выпадкаў этыолёгія жаўтухі супадае з этыолёгіяй катару страўніка і дванаццаціперснай кішкі. Першапачаткова жаўтуха разьвіваецца пры перашкодах к адтоку жоўці. Так, конкрэмэнты, або паразіты, закупорваючы жоўчныя пуці, абумоўліваюць разьвіцьцё жаўтухі. У такіх выпадках жоўць не знаходзіць для сябе выхаду, усэсваецца лімфотычнымі і часткова крывяноснымі судзінамі і, цыркулюючы па організму, выклікае клінічную карціну жаўтухі. Акрамя таго, жаўтуха атрымліваецца пры атручваньнях фосфарам, мыш'яком, спэжыўной сольлю і інш.

**Сымптомы.** Галоўным прызнакам жаўтухі зьяўляецца больш ці менш выражаная жаўцізна склеры, сьлізістых абалонак, скуры і мачы. Інтэнсыўнасьць афарбоўкі ў жоўты колер розная: яна бывае сьветлажоўтаю, у больш-жа цяжкіх выпадках шафранна-жоўтаю, аранжаваю. У прыватнасьці колер скуры пры жаўтусе залежыць ад узросту жывёлы і ад даўжыні захворваньня. Чым старэй жывёла, тым таўшчэй у яе эпідэрміс, тым меншая інтэнсыўнасьць афарбоўкі. Намі неаднакроць наглядалася жаўтуха ў парасят ва ўзросьце 2–3 месяцаў, пры чым уся скура і сьлі-

зістыя абалонкі мелі рэзка шафранна-жоўтую афарбоўку. Ад аналёгічных момантаў залежыць інтэнсыўнасьць афарбоўкі сьлізістых абалонак і склеры. Так, сьлізістыя абалонкі носу, поласьці рота, у залежнасьці ад труднасьці і працягласьці хваробы, бываюць то лімонна-жоўтага, то аранжава-жоўтага, то зеленавата-жоўтага колеру. Мача пры жаўтусе бывае таксама аранжава-жоўтага, бура-жоўтага, або жаўтавата-зялёнага колеру, пры чым пры ўзбоўтваньні дае жоўтую пену, якая доўга захоўваецца. У большасьці выпадкаў у жывёл, акрамя таго, наглядаецца слабасьць, санлівасьць, хуткая стома і бязудзельныя адносіны к навакольнаму. Апэтыт памяншаецца, а пры доўгай жаўтусе расстрайваецца жыўленьне. Сардэчныя штуршкі і пульс становяцца рэдкімі, а часамі і арытмічныя.

**Дыягноз**. Распазнаць жаўтуху ня цяжка. Аднак, у паасобных выпадках не абмяжоўваюцца канстатаваньнем жаўтухі, належыць на аснове даных анамнэзу і клінічнага дасьледваньня ўстанавіць таксама і прычыны маючайся жаўтухі.

**Прогноз**. Працягласьць жаўтухі залежыць ад прычын, якія яе выклікалі. Найбольш спрыячы канец хваробы наглядаецца ў тых выпадках жаўтухі, якая разьвілася на глебе катару дванаццаціперснай кішкі, або буйных жоўчных

ходаў. Між іншым часамі і жоўчныя каменьні выклікаюць спрыяюча працякаючую і хутка праходзячую жаўтуху. У іншых выпадках жаўтуха цягнецца месяцамі, гадамі і вядзе організм да поўнага зьнясіленьня.

Лячэньне. Лячэньне павінна быць накіравава супроць прычыны, выклікаўшай жаўтўху. Часьцей за ўсё прыходзіцца ўстараняць існуючы катар страўніка і дванаццаціперснай кішкі. Вялікую ўвагу належыць зьвяртаць на кармленьне хворых жывёл: тлустай стравы пры назначэньні рацыёну належыць унікаць. Добрую паслугу аказвае працяглая дача карлсбадзкай солі. Пры запоры рэкамэндуецца слабіцельнае: каламель, сабур, а таксама ўліваньне ў прамую кішку вялікіх колькасьцяй цёплага фізыолёгічнага раствору спажыўной солі.

1. *Rp*. Alöes pulv. 10,0
Sal. carol. fact. 100,0
Mf.Pulv. D. S. Па чайнай лыжцы 2 разы ў дзень з кармом.

2. *Rp*. Pulv. Rad. Rhei 50,0
Pulv. Rad. Gentianae 20,0
Sal. carol. fact. 100,0
Mf Pulv. D. S. Па чайнай лыжцы 2 разы ў дзень з кормам.

3. *Rp*. Calomel — 4,0
D. S. З цукрам, або мукой ў выглядзе кашкі. -Унутранае.

## ХРОНІЧНАЕ ІНТЭРСТЫЦЫАЛЬНАЕ ЗАПАЛЕНЬНЕ ПЕЧАНІ

**Этыолёгія.** Гэтая хвароба ў некаторых мясцовасьцях даволі распаўсюджана і прыносіць вялікія экономічныя страты. Для разьвіцьця хронічнага гепатыту перш за ўсё мае значэньне кармленьне жывёл некаторымі расьлінамі балоцістых мясцовасьцяй, як відаць, зьмяшчаючых у сабе атрутныя матэрыі. Акрамя таго, садзейнічаючымі ўзьнікнавеньню хронічнага гепатыту момантамі зьяўляюцца сырое стойлавае ўтрыманьне і адсутнасьць пэўна ўстаноўленага мацыёну. Хронічны інтэрстыцыальны гепатыт далей можа разьвівацца на глебе кармленьня сапсаванаю, заплесьнелаю, бруджанай ежай. Роўным чынам расстройства страваваньня, якое справаджаецца ўзмоцненым утварэньнем у кішэчніку атрут, можа прыводзіць да хронічнага запаленьня печані. Нярэдка, нарэшце, прычынаю захворваньня служыць інвазыя. Паўторны хронічны гепатыт наглядаецца пры многіх хронічных інфэкцыйных захворваньнях: хронічная бацылярная рожа, тубэркулёз і г. д.

**Сымптомы**. Хронічны гепатыт разьвіваецца паступова і незалежна. У выражаных выпадках наглядаецца хронічны катар страўніка і кішок, прыступы жаўтухі і зьмяненьне апэтыту.

**Дыягноз**. Дыягноз на аснове клінічных наглядаіньняў можна паставіць толькі ўмоўна.

**Прогноз.** Хвароба працягваецца ад 4-6 і больш месяцаў і звычайна прыводзіць жывёл да зьнясіленьня і сьмерці. У большасьці выпадкаў хвароба мае тэндэнцыю да бесьперапыннага разьвіцьця, ня гледзячы на лячэньне, якое ўжываецца. Прогноз няспрыяючы.

Лячэньне. Раней за ўсё неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўмовы ўтрыманьня і кармленьня. Сьветлыя, сухія сьвінарнікі, лёгка ператраўны корм, добрая паша зьяўляюцца галоўнымі з гэтых умоў. Унутр нззначаюць у невялікіх, але частых дозах карлсбадзкую соль, а пры нахілах к запору — каломель. Розных раздражняючых сродкаў належыць ухіляцца.

*Заўвага:* Глядзі адпавядаючыя рацэпты вышэй.

## ЗАПАЛЕНЬНЕ БРУШЫНЫ. ПЭРЫТОНІТ.

**Этыолёгія.** Пэрытоніты падзяляюцца па сваіму распаўсюджваньню на разьліты, мясцовы, а па ходу процэса на востры і хронічны. Звычайна пэрытоніт разьвіваецца ў тых выпадках, калі ў брушную поласьць пападаюць мікроорганізмы, здольныя выклікаць нагнаеньне. Так, востры пэрытоніт нярэдка зьяўляецца вынікам нядбайна зробленых опэрацый на брушной сьценцы, пры якіх у опэрацыйнае поле прыносяцца патагенныя бактэрыі, аналёгічна запаленьне брушыны разьвіваецца пасьля разрыву

прамой кішкі, атрыманага ў рэзультаце грубога рэктальнага дасьледваньня, або ўжываньнем клістыраў, пасьля разрыву пахвін пры цяжкіх родах і г. д. Паўторна пэрытоніт атрымоўваецца ў рэзультаце распаўсюджваньня запаляльнага процэсу з суседніх органаў на брушыну. У гэтых адносінах амаль кожны орган брушной поласьці можа стаць выходным пунктам пэрытоніту. Не пашкодзіць тут успамянуць аб так званым пэрфоратыўным пэрытоніце, або пэрытоніце ад прабадзеньня. Апошні разьвіваецца ў тых выпадках, калі запаленьне якоганебудзь органа брушной поласьці, або пашкоджаньне брушнога пакрыцьця цягне за сабой ўтварэньне канала, які злучае ўспаляльны вучастак з поласьцю брушыны. Узьнікненьне пэрытоніту можа таксама стаяць у сувязі з іншароднымі целамі ў кішках, з копростазамі, з перакручваньнямі інвагінацыяй кішок, з грыжамі і т. п. Запаленьне брушыны нарэшце часамі разьвіваецца на глебе інфэкцыйных захворваньняў: бацылярная рожа, тубэркулёз, гэмарагічная сэптэцымія і інш.

**Сымптомы** Прызнакам пачынаючагася запаленьня брушыны зьяўляецца боль у жываце: жывёла стогне, стараецца не рабіць быстрых і рэзкіх рухаў, пры пераходах робіць маленькія крокі. Нярэдка, акрамя таго, наглядаецца запор, потым паяўляецца ванітаваньне. У ванітных

масах іншы раз знаходзяць масы калу. Тэмпэдатура цела павышаецца да 41-41, 5⁰. Апэтыт адсутнічае.

Частае дыханьне робернага тыпу, пульс пачашчоны нярэдка ўдвая супроць нормы.

**Дыягноз.** Анамнэстычныя даныя, павышаная тэмпэратура, адчувальнасьць вобласьці жывата, ванітаваньне і асьцярожныя рухі жывёлы ў сукупнасьці звычайна даюць дастатковыя падставы для правільнага распазнаваньня хваробы.

**Прогноз.** Востры пэрытоніт нярэдка завяршаецца сьмерцю жывёлы на працягу 1-2 сутак. Хутка надыходзячы лятальны канец наглядаецца галоўным чынам у тых выпадках, калі перытоніт ўзьнікае ў выніку пападаньня ў поласьць брушыны масы са страўніка кішак або гною. У большасьці-ж выпадкаў зьявы перытоніту разьвіваюцца больш павольна і канчаюцца сьмерцю жывёлы на 6-14 дзень. У некаторых выпадках хвароба пераходзіць у хронічную форму і цягнецца месяцамі. Такім чынам прогноз пры запаленьні брушыны, а асабліва ў тых выпадках, калі перытоніт разьвіўся на глебе прабадзеньня страўніка, кішак, а таксама гнойнай або гнілоснай інфэкцыі,—няспрыяючы. Між іншым пры невялікіх мясцовых фібрынозных запаленьнях брушыны хвароба іншы раз канчаецца выздараўленьнем.

Лячэньне. Жывёле даецца поўны спакой, і ўжываюцца ўсе сродкі, якія вядуць да ўстараненьня прычыны, выклікаўшай пэрытоніт. У выпадках, калі запаленьне брушыны зьвязана, напр., з ушчэмленай грыжай, неабходна хутка хірургічнае ўмяшаньне. У вогуле пры пэрытоніце лячэньне сымптоматычнае. Супроць запору назначаюць лёгкія слабіцельныя, або клізмы з цёплай вады. Пры болях у вобласьці жывата ўжываюцца халодныя прымочкі, пры чым пасьля памяншэньня боляў рэкамэндуецца ўжываць цёплыя ўкутваньні, або расьціраньні камфорным сьпіртам. Пры паносе для памяншэньня кішачнай пэрыстальтыкі даецца опій.

1. *Rp.* Hydrarg. chlor. mit. 2,0
Melis crudi 15,0
M. D. S. На адзін прыём. Слабіцельнае.

2. *Rp.* Spir. camphor 40,0
D. S. Знадворнае. Для расьціраньня ў вобласьці боляй.

3. *Rp.* Opii pulv. 2,0
Sacchari albi 5,0
Pulv. Rad. Altaeae et
Aq. destil. q. s.
Mfelect. D.S. На адзін прыём. Намазаць на корань языка. Вяжучае.

## АТРУЧВАНЬН ФОСФАРАМ І МЫШ'ЯКОМ

**Этыолёгія.** Атручваньне фосфарам і мыш'яком нярэдка адбываецца ў тых выпадках, калі паста, што зьмяшчае ў сабе гэтыя матэрыі, якія раскіданы для атручваньня пацукоў і мышэй, зьядаецца сьвіньнямі. Атручваньне мыш'яком атрымліваецца таксама ў выпадках няўмелага яго ўжываньня. Вышэйшая тэрапэўтычная доза мыш'яком 0, 05, але такая доза, даная сьвіньням паўторна, выклікае іншы раз ужо сьмярцельнае атручваньне.

**Сымптомы.** Пры атручваньні фосфарам у сьвіней наглядаецца слабасьць, панос, крывязьліяньні ў скуру, У цяжкіх выпадках праз 10-12 гадзін наступае сьмерць. Пры атручваньні мыш'яком у жывёлы атрымліваецца панос, пры чым сьмярдзючы кал, часта фарбованы крывёю. Часамі наглядаецца язваваньне сьлізістай абалонкі ротавой поласьці.

**Дыягноз.** Для распазнаваньня цэнныя ўказаньні можна атрымаць з анамнэзу. Неабходна выключыць чуму, рожу, запаленьне страўніковакішачнага тракту і інш.

**Прогноз.** Звычайна няспрыяючы. У цяжкіх выпадках атручваньня сьмерць наступае праз 10-12 гадзін.

Лячэньне. Пры быстрым выяўленьні атручваньня фосфарам рэкомэндуецца ўжываньне ванітных сродкаў. Вэратрын, корань іпэкакуаны,

медны купарвас. Добра таксама даваць марганцава-кіслы натрый, у крайнім выпадяу марганцава-кіслы калій 50, 0—100, 0-0, 25 або 0, 5 воднага раствору, або скіпідар 5-10, 0. Пры атручваньні мыш'яком даюцца прэпараты жалеза, пры адсутнасьці якіх іншы раз з посьпехам карыстаюцца тою вадою з кузьні, якая служыла для ахаладжваньня гарачага жалеза.

1. *Rp.* Pulv. Rad. Jpecacuannae 2,0
Sacchari lactici 5,0
Farinae Sacalin
et Aq destill. q. s.
Mfelect. D. S. Ванітнае. На 1 прыём.

2. *Rp.* Veratrini 0,03
Spir vini rect. 5.0
M. D. S. Падскурнае. Ванітнае.

3. *Rp.* Ol terebinthinae. 5,0
Sacchari albi 10,0
Farinae Sacalin. q. s.
Mfelect. D. S. Унутранае. Супроцьатрутнае.

4. *Rp.* Ferri Pulverati 1,0
D. S. На адзін прыём ў выглядзе кашкі. Як супроцьатрутнае пры атручваньні мыш'яком.

## АТРУЧВАНЬНЕ СОЛЬЛЮ

**Этыолёгія.** Выпадкі атручваньня спажыўной сольлю часта атрымліваюцца ў рэзультаце даваньня сьвіньням мяснога і рыбнага расолу, Спажыўная соль ў дозе 5-10, 0 зьяўляецца для сьвіньні жаданым пластычным сродкам, у дозе-ж 30-40,0 у суткі выклікае атручваньне.

**Сымптомы**. Пры атручваньні сольлю жывёла праяўляе сільнае ўзбуджэньне, якое зьмяняецца прыгнечаньнем. Атручаныя сьвіньні, то бязудзельны да навакольнага, то пачынаюць рабіць кругавыя рухі, выяўляючы сударагі жавацельных цяглін, выдзяляюць з роту пеністую сьліну. Некалькі пазьней наступаюць паралюшы задніх і пярэдніх канцавін, а таксама глытальных цяглін. Сьвьні ў гэты час звычайна ляжаць упёршыся носам у зямлю і скора гінуць.

**Дыягноз**. Для распазнаваньня неабходна надзейны анамнэз і старанна клінічнае дасьледваньне захварэўшай жывёлы. Пры гэтым належыць выключыць хваробы, якія працякаюць з аднастайнымі клінічнымі сымптомамі: чума, шаленства і інш.

**Прогноз**. Хвароба ў некаторых выпадках зацягваецца да 5-10 дзён. Асабліва часта такая працяглась ць атручваньня наглядаецца пры нематазгодным кармленьні, калі хворыя жывёлы атрымліваюць корм у вялікай колькасьці і дрэннай якасьці. У цяжкіх выпадках атручваньня, сьмерць наступае праз 5-10 гадзін.

**Лячэньне**. Жывёле даецца чыстая, прахладная вада, лепш са сьлізістым адварам ільнянога насеньня. Добра ўжываць клізмы, з прыбаўленьнем 1-2 сталовых лыжак ільнянога масла. Як узбуджаючае ўводзіцца падскурна кофэін, саліцылева-кіслы натр, камфорнае масла, або він-

ны сьпірт. Добра ўжываць крывяпусканьне да 500.0 у адпаведнасьці з ростам і вагой сьвіньні. Пры сільным узбуджэньні—хлорал-гідрат Per os, альбо Per Rectum

1. *Rp.* Coffein. Natr-Salicyl. 1.0
Aq. destill. 5 0
MtSol. D. S. Падскурна

2. *Rp.* Chloral-Hydrat 5,0
D. S. На сьлізістым адвары ў выглядзе клізмы

3. *Rp.* Ol. Lini 50,0
D. S. У выглядзе клізмы на адзін раз.

### Брушная вадзянка—асцыт.

**Этыолёгія.** Нярэдка наглядаемы ў сьвіньней асцыт разьвіваецца як паўторнае захворваньне пры хронічных хваробах печані, брушыны, сэрца, нырак, крыві (гідрэмія).

**Сымптомы.** Жывот пабольшаны ў аб'ёме. Пры пальпацыі брушных сьценак адчуваецца флюкстуацыя зыбленьне (ад вадкасьці, што сабралася ў брушной поласьці). Вадкасьць абумоўлівае пры пэркусыі тупы гук. Дыханьне затрудненае, пульс б'ецца часьцей. Пад скураю ў розных мясцох зьяўляюцца ацекі, відомыя сьлізістыя абалонкі упачатку бледныя, а потым цыянотычныя. Апэтыт паменшан, жыўленьне расстрайваецца, жывёла зьнясіляецца.

**Дыягноз.** Распазнаваньне ўтвараецца шляхам клінічнага дасьледваньня і пробнага праколу

брушной сьценкі, якім пры асцыце выцягваецца з брушной поласьці вадзяністая вадкасьць.

**Прогноз.** Прадказаньні залежаць ад асноўнай хваробы; увогуле яно няспрыяючае.

**Лячэньне.** Лячэньне звычайна бывае бяз рэзультатна. Лепш паклапаціцца аб своячасовай утылізацыі хворых жывёл на мяса.

---

# ХВАРОБЫ ОРГАНАЎ ДЫХАНЬНЯ.

## КРЫВЯЦЯЧЭНЬНЕ З НОСУ.

**Этыолёгія.** Прычынамі крывяцячэньня з носу звычайна зьяўляюцца траўматычныя ўзьдзеяньні. Найбольш часта сустракаецца крывяцячэньне ў выніку раненьня сьлізістай абалонкі носавай поласьці, уколаў, укусаў, паразітамі, удараў па галаве і т. п,

Нярэдка яны бываюць пры скарцуце, а таксама пры інфэкцыйных хваробах (антракс і інш.) Часамі нязначнае крывяцячэньне з носу наглядаецца ў часе апаросу.

**Сымптомы.** З аднае, або з абедзьвюх наздрэй выступае то кроплямі, то тонкім цукрам сьветла-чырвоная кроў, часамі з пухіркамі паветра. Пры вялікай страце крыві пульс становіцца малым і частым, сьлізістыя абалонкі бляднеюць і можа наступіць сьмерць ад паралюша судзіна рухаючага цэнтру.

**Дыягноз**. Дыягноз устанаўліваецца лёгка на аснове клінічнага дасьледваньня. У адрозьненьне ад лёгачных крывяцячэньняў трэба мець на ўвазе, што пры апошніх выцякаючая кроў сьветла-чырвонага колеру, пеністая, прычым наглядаецца кашаль.

**Прогноз**. Пры прадказаньні магчымага выніка носавага крывяцячэньня неабходна ўлічваць прычыну, якая абумоўлівае гэтую зьяву.

**Лячэньне**. Хвораму неабходна даць поўны спакой. Добра ўжываць халодныя компрэсы на лоб і сьценку носа, а таксама прамываньне поласьці носа вяжучымі сродкамі (тонін, квасцын, палутара-хлорыстае жалеза). Пры сільных крывяцячэньнях належыць зьвярнуцца да томпанацыі адной або абедзьвюх наздрэй.

1. *Rp.* Liq. Ferri Sesq o-chlorati 6,0
Aq destill. 300,0
M. D. S. Для прапалосканьня насавой поласьці.

2. *Rp.* Alumines 9,0
Aq. destill 300,0
M. D. S. Для прапаласканьня насавое поласьці.

3. *Rp.* Acidi Tannici 3,0
Aq. destill. 300,0
M. D. S. Sol. Для прапаласканьня насавое поласьці.

## НАСМАРК—РЫНІГ

**Этэолёгія**. Сярод дарослых сьвіньней перцаразовае запаленьне сьлізістай абалонкі носа сустракаецца рэдка. Звычайна рыніт наглядаецца сярод парасят ва ўзросьце ад 3 да 6 месяцаў, набываючы часамі характар энзоатыі. Прычынаю яго служаць „мікраорганізмы“ (Bac. Ryocisaneus) якія ў вялікай колькасьці сустракаюцца ў гноі, саломе і жыжцы ад гною, адкуль інфэкцыруюць жывёлу. Момантамі, што могуць спрыяць захворваньню, зьяўляюцца галоўным чынам дрэнна абсталяваныя, сырыя, брудныя і халодныя сьвінарнікі. Акрамя гэтага, рыніт разьвіваецца паўторна пры некаторых інфэкцыйных захворваньнях (чума і інш.)

**Сымптомы**. Пачатак хваробы характэрызуецца ліхарадачным павышэньнем тэмпэратуры да 41° і памяншэньнем апэтыту. Хворыя сьвіньні рыюцца ў даным ім корме, але ядуць надзвычайна павольна, або зусім не ядуць. Разам з тым захварэўшыя жывёлы пачынаюць своеасабіста аддувацца, нібы зьбіраюцца чыхальнымі рухамі выдаліць з носу скудот, які там сабраўся Пры гэтым іншы раз хворыя труцца пятачком аб кармушку або сьценкі. У далейшым зьяўляецца чырвонаватае, сьлізістае, якое робіцца пасьля гнойным, выдзяленьне з носу. Дыханьне становіцца ўсё больш і больш напружаным, сапучым.

У цяжкіх выпадках наглядаецца апуханьне вобласьці носа і падсківічных лімфатычных залоз. Разам з тым нярэдка зьяўляецца сільнае ўзбуджэньне, хворыя робяць не мэтазгодныя рухі, лезуць на сьцену, пасьля чаго падаюць на зямлю, упадаючы на некаторы час у стан прострацыі.

**Дыягноз**. Клінічнае дасьледваньне хворых жывёл дае дастаткова падстаў для правільнага распазнаваньня рыніту.

**Прогноз.** У большасьці выпадкаў інфэкцыйны рыніт праз 3-6 дзён канчаецца сьмерцю. Прадсказаньне пры ім ня спрыяючае.

Лячэньне. Інфэкцыйнага рыніту звычайна не дае спрыяючых рэзультатаў, таму ў такіх выпадках належыць паклапаціцца аб сваячасовым забоі захварэўшых жывёл. Асабліва важнае значэньне ў справе барацьбы з інфэкцыйным рынітам мае профіляктыка. Сьвінарнікі павінны трымаецца ў чыстаце, быць сухімі, цёплымі. Пры зьяўленьні хваробы ў гаспадарцы неабходна ізаляваць захварэўшых жывёл і правесьці грунтоўную дызэнфэкцыю сьвінарніка.

1. *Rp.* Sal. Hydr. Bichlorati 1:1000
D. S. Апырскваньне насавых поласьцяй. Знадворнае.

2. *Rp.* Sal. Creolini 3%
D. S. Знадворнае. Апрыскваньне насавых поласьцяй.

## КАТАР ГАРТАНІ—ЛЯРЫНГІТ.

**Этыолёгія.** Схільнасьць да лярынгіту ў розных індывідуумаў неаднолькавая: некаторыя сьвіньні, асабліва кволай пароды, захворваюць на катар значна лягчэй. Непасрэднаю прычынаю катару гартані звычайна зьяўляецца прастуда. Роўным чынам, лярынгіт разьвіваецца ў рэзультаце ўзьдзейнічаньня на сьлізістую абалонку гартані якім-небудзь фізыка- хімічным раздражняльнікам: прыём празьмеру гарачага корму і пойла, удыханьне аміячных пароў, якія атрымліваюцца пра разлажэньні мачы ў дрэнна абсталяваных сьвінарніках, неасьцярожнае задавальненьне мэдыкамэнтаў і да т.п. Можа ён атрымацца таксама шляхам распаўсюджваньня ў сувязі з запаленьнем носу, глоткі, трахеі, бронхаў, лёгкіх і г. д. Хранічны катар гартані ўзьнікае з вострага, або разьвіваецца самастойна пры працяглым узьдзеяньні раздражняльнікаў. Паўторны лярынгіт наглядаецца пры некаторых інфэкцыйных захворваньнях.

**Сымптомы.** Катар гартані заўсёды суправаджаецца кашлем. У цяжкіх выпадках наглядаецца расстройства. дыханьня. Апэтыт часамі нязначна паменшаны

**Дыягноз.** Распазнаваньне робіцца шляхам клінічнага дасьледваньня.

**Прогноз.** Працягласьць вострага лярынгіту ў лёгкіх выпадках абмяжоўваецца некалькімі

днямі. У больш цяжкіх выпадках хвароба цягнецца ад аднаго да некалькіх тыдняў. Хранічны лярынгіт цягнецца тыднямі і нават месяцамі.

**Лячэньне.** Раней за ўсё неабходна ўстараніць прычыну, якая выклікала катар. Хворым павінна быць дадзена ўмеранае цёплае, бяз скразьнякоў, сухое з чыстым паветрам і дастатковаю колькасьцю сьвятла памяшканьне. У цёплую пагоду рэкамэндуюцца прагулкі на вольным паветры. Корм павінен быць добраstраўным, добрай якасьці, прычым добра даваць цёплае малако, бульбяны сьлізісты суп. Супроць кашлю можна назначаць унутр нашатыр, антымоній і інш.

1. *Rp.* Sal. Carol. fact. 100,0
Sulfur. Sublimati 5,0
MfPulv. D. S. На чайнай лыжцы 2 разы на дзень з кормам

2. *Rp.* Ammon. Chlor. 10,0
Pulv. Rad. Liquirit. 50,0
Sal. carolini fact. 75,0
MfP. D. S. Па чайнай лыжцы 2 разы на дзень з корм.

## КАТАР БРОНХАЎ—БРОНХІТ.

**Этыолёгія.** Да катару бронхаў найбольш схільны маладыя і кволыя жывёлы. Даволі часта ён выклікаецца прастудаю: скразьнякі ў сьвінарніках, а таксама халодныя і сырыя пагоды, паўночныя і ўсходнія вятры, што часьцей за ўсё бывае вясною і ўвосень, зьяўляюцца

звычайна непасрэднымі прычынамі бронхіту, які часта бывае злучан з лярынгітам. Цяжкія запаленьні сьлізістай абалонкі бронхаў выклікаюцца таксама мэханічнымі, або хімічнымі раздражнялънікамі: удыханьне забруджанага паветра, пападаньне праз гартань і трахею вадкіх або цьвёрдых пры глытаньні цел і т. п. Нярэдка катар бронхаў бывае інфэкцыйнага паходжаньня, прымаючы часамі энзоотычны характар. Хронічны бронхіт абумоўліваецца тымі-ж працягла дзейнічаючымі шкоднымі ўплывамі.

**Сымптомы.** Хвароба пачынаецца ліхарадачным павышэньнем тэмпэратуры, якая дасягае 41, 5-42°. Разам з тым зьяўляецца кашаль. На 2-гі або 3-ці дзень хваробы пры выслухваньні заўважаюцца самыя рознастойныя хрыпы, прычым месца выслухоўваньня хрыпаў указвае на лёкалізацыю паталагічнага процэсу. Часамі наглядаецца ўчашчаны пульс, пераменчывы апэтыт і прыгнечаны стан жывёлы.

**Дыягноз.** Распазнаваньне бронхіту, акрамя выяўленьня клінічных прызнакаў, утвараецца галоўным чынам выслухваньнем, якім і канстатуюцца хрыпы і шумы, якія маюцца пры дыханьні. Між іншым неабходна мець на ўвазе, што многія захворваньні лёгкіх пры аўскультацыі даюць аналёгічныя рэзультаты. Западозрываць захворваньне лёгачнай ткані належыць у тых выпадках, калі хрыпы і шумы

лёкалізуюцца толькі ў адным лёгкім, або ў якім-небудзь абмежаваным вучастку.

**Прогноз.** Працягласьць вострага катару бронхаў залежыць ад умоў утрыманьня жывёлы. Ззычайна востры бронхіт працягваецца некалькі дзён, хронічны-ж можа цягнуцца месяцамі. Прадказаньне пры ўсякім цяжкім бронхіце павінна ставіцца з асьцярожнасьцю.

Лячэньне. Тэрапія бронхаў зводзіцца да ўстараненьня ўсякіх шкодных уплываў на хворых жывёл. З гэтаю мэтаю сьвіньні павінны трымацца ў чыстых, сьветлых, якія рэгулярна праветрываюцца, памяшканьнях. У добрую пагоду, унікаючы ад скразьнякоў, можна іх трымаць на вольным паветры. Пры добраякасным рацыёне ўнутр даюць карлсбадзкую соль, нашатыр, антымоній, серку і да т. п. Добра таксама ўжываць інгаляцыі з дэзынфэцыруючымі сродкамі.

1. *Rp.* Stib. Sulf. aaranti 10,0
Natri Bicarbon. 15,0
Rad. Liquirit. Pulv. 50,0
MfPD. S.
Па чайнай лыжцы адзін раз у дзень з кормам.

2. *Rp.* Flores Sulfuris 0,5
D. t. D. № IV.
D. S. Па аднаму парашку ў дзень з кормам

3. *Rp.* Ammon. chlorati 1,0
Rad. Liquirit. Pulv.
Sal. carolini fact. aa 5,0
MfPulv. DtD № V
S. Па аднаму парашку ў дзень з кормам.

4. *Rp.* Stib. Sulfurati nigri 2,0
DtD № V.
S. Па аднаму парашку 2 разы ў дзень з кормам.

## КАТАРАЛЬНАЕ ЗАПАЛЕНЬНЕ ЛЁГКІХ

**Этыолёгія.** Часьцей за ўсё катаральная пнэўмонія разьвіваецца паўторна пры бронхіце. Такім чынам усе шкодныя ўплывы, якія выклікаюць бронхіт, могуць зьяўляцца і прычынамі для бронха-пнэўмоніі. Нярэдка прычынаю бронха-пнэўмоніі і зьяўляецца пападаньне ў бронхі іншародных цел: частачак корму, пяску і да т. п., што бывае пры расстройствах глытаньня (фарэнгіт) хваробы страваводу, ванітаваньне, няўмелая дача вадкіх лякарстваў. Наглядаюцца бронха-пнэўмоніі глістнага паходжаньня і пры некаторых вострых інфэкцыях (яшчур, чума і інш).

**Сымптомы.** Прызнакі катаральнай пнэўмоніі аналёгіруюць з такавымі пры вострым бронхіце: ліхарадка, хваравіты кашаль, учашчаны слабы пульс, цыяноз сьлізістых абалонак, хрыпы пры аускультацыі.

**Дыягноз.** На бронха-пнэўмонію ўказваюць, акрамя зьявішчаў бронхіту, прысутнасьць на абмяжаваных вучастках грудной клеткі бронхіальнага дыханьня і вільготных хрыпаў, якія чуваць пры аускультацыі; пры адсутнасьці гэтых зьяў дыягноз можа быць толькі ўмоўным.

**Прагноз.** У лёгкіх выпадках хвароба працягваецца 1-2 тыдні. Цяжкія бронха-пнэўмоніі і сьмяртэльныя. Прадказаньне ўвогуле няспрыяючае

**Л я ч э н ь н е.** Тэрапія тая-ж што і пры бронхіце. Добра ўжываць інгаляцыі, з прыбаўкаю дэзынфэцыруючых сродкаў. Унутр рэкомэндуецца даваць каломель, сярэднія солі, а пры ўпадку сіл—віно, напярсьцянку. Вялікая ўвага павінна быць зьвернутаа профіляктычным мерапрыёмствам: чыстата сьвінарнікаў, іх праветрываньне, дэзынфэкцыя і інш.

1. *Rp.* Calomel 2,0

   D. S. На прыём з мёдам. Намазаць на коквранч языка.

2. *Rp.* Sal. Carol. fact. 5,0
   D. t. D. № VI.

   S. Па парашку ў корм.

3. *Rp.* Fol. Digitalis Pulv
   Pulv. Rad. Liquirit. et.
   Aq. Destill. q. s.
   Mf. Elect. D. S. Намазаць на корань языка.

## КРУПОЗНАЕ ЗАПАЛЕНЬНЕ ЛЁГКІХ.

**Этыолёгія** Крупозная пнэўмонія належыць да ліку ліхарадачных захворваньняў лёгкіх, якія часта сустракаюцца. Узьнікненьне крупознай пнэўмоніі зьвязана з інфэкцыяй. Сьвіньні звычайна захворваюць на сэптыцэмічную пнэўмонію, якая часта прыймае крупозны характар. Гэморагічная сэптыцэмія, часамі пераходзячы на сьвіней з буйнай рагатай жывёлы, можа, калі яна не канчаецца вельмі быстра сьмерцю, таксама зьявіцца падставаю для разьвіцьця

крупознай пнэўмоніі. З прычыны таго, што ў поласьці глоткі, роту і носу ў сьвіней звычайна сустракаюцца біполярныя бацылы з адзначальнымі прызнакамі Bac. Suisepticus, то пры прагным паяданьні сьвіньнямі стравы, разам з часткамі стравы гэтыя бацылы могуць папасьці ў бронхі і адсюль праяўляюць сваё патагеннае ўзьдзеяньне. (Hutlyra et Marek).

**Сымптомы.** У большасьці выпадкаў крупознае запаленьне лёгкіх пачынаецца нечакана, з ліхарадачнага стану ($41^0$-$42,5^0$). Сьвіньні становяцца вялымі, закапваюцца ў подсьціл і больш ляжаць. Апэтыт спачатку паменшаны, а пасьля зусім прападае. Дыханьне ўчашчанае. Пры аускультацыі, дзякуючы падпуханьню сьлізістай абалонкі бронхаў і ўчашчанаму дыханьню ў пачатковай стадыі хваробы чутно абвостранае і рэзкае вэзыкулярнае дыханьне, да якога праз кароткі прамежак часу далучаюцца высокія (дробна-пузырчатыя) хрыпы і крэпітацыя. Апошнія асабліва ясна чуваць у час удыху і паказваюць на прысутнасьць у альвеолах і бронхах фібрынознага эксудату.

**Дыягноз.** Для распазнаваньня хваробы належыць прыймаць пад увагу даныя клінічнага дасьледваньня, а таксама анамнэз.

**Прогноз.** Калі няма сэмптычнай інфэкцыі або калі крупозная пнэўмонія не ускладняецца

іншымі хваробамі, то запаляльны процэс к канцу тыдня дасягае свайго вышэйшага пункту, пасьля чаго пачынаецца быстрае яго вырашэньне. Аднак пры гэтым захворваньні ускладненьні сустракаюцца часта, і нярэдка ўжо на працягу некалькіх дзён крупозная пнэўмонія прыводзіць жывёлу да сьмерці.

Лячэньне. Хворым неабходна раней за ўсё даць цёплае, чыстае, якое добра вэнтылюецца і часта праветрываецца, памяшканьне. Пры спрыяючай пагодзе сьвіней можна трымаць на вольным паветры. Корм павінен быць добраструаўным і добрай якасьці. Для ўзмацненьня апэтыту добра даваць штучную карлсбадзкую соль, саляную кіслату, а таксама і горкія сродкі. Пры слабасьці сэрца рэкомэндуюць сардэчныя сродкі, а таксама алкаголь у малых, але часта паўтараючыхся дозах.

1. *Rp.* Coffeini Natr. Salicyl 1,0
Aq. destill. 5,0
M. D. S. Для падскурнай ін'екцыі. Сардэчн.

2. *Rp.* Rad. Gentian. Pulv. 5,0
D. t. D. № IV.
S. Па парашку ў дзень з кормам.

3. *Rp.* Acid. Muriat. dil. 2,0
D. S. На адзін прыём з вадкім кормам на працягу 3-4 дзён.

## ПЛЕЎРЫТ.

**Этыолёгія.** Адрозьніваюць першаразовы і паўторны плеўрыт. Першаразовымі трэба прызнаць тыя запаленьні, пры якіх папаўшыя ў організм узбуджальнікі запаленьня лёкалізуюцца непасрэдна ў пляве, ня выклікаючы папярэднія захворваньні якога-небудзь іншага органу. Паўторныя плеўрыты бываюць у выніку пераходу запаляльнага процэсу на пляву з суседніх органаў, галоўным чынам з лёгкіх. Сустракаюцца ў большасьці плеўрыты паўторныя і ў пераважнасьці інфэкцыйнага паходжаньня. Пры гэтым мікроорганізмы, якія выклікалі плеўропнэмонію, пападаюць на пляву з лімфай, або запаленьне непасрэдна пераходзіць з лёгкага на пляву. Акрамя інфэкцыйных захворваньняў (тубэркулёз, геморагічная сэптыцэмія і інш.), іншы раз плеўрыт разьвіваецца пры раматусных запаленьнях суставаў. Не малаважную ролю ва ўзьнікнавеньні плеўрыта адыгрываюць многія ўплывы, якія паніжаюць рэзыстэнтнасьць організму: ахаладжваньне, доўгачасная транспортыроўка па чыгунцы і на фурманцы, стома пры перагонах сьвінных табуноў гужавым шляхам у дрэннае надвор'е і да т. п.

**Сымптомы.** Жывёлы вялыя, неахвотна перасоўваюцца і выяўляюць зьменнасьць ў апэтыце. Дыханьне ў выніку хваравітай адчувальнасьці

плявы паскоранае і павярхоўнае. Пры пальпацыі грудное сьценкі сьвіньні пішчаць. Аускультацыя грудной клеткі выяўляе шумы трэньня. Сардэчны штуршок аслаблен. З цягам хваробы расстрайваецца жыўленьне, жывёла слабее, скура робіцца сухою, наступае схуданьне і сьмерць.

**Дыягноз.** Характэрным прызнакам плеўрыту зьяўляецца боль пры націсканьні на міжробер'ныя адлегласьці і чутныя пры аускультацыі шумы трэньня.

**Прогноз.** Прадсказаньне залежыць ад асноўнага мучэньня і ад цяжкасьці самога плеўрыту. Плеўрыт, які разьвіўся ў сувязі з гнойным запаленьнем якіх-небудзь органаў, амаль заўсёды быстра прыводзіць да сьмерці.

**Лячэньне.** Захварэўшай жывёле павінна быць дана цёплае сухое і сьветлае памяшканьне і добраякасны лёгка пераітраўны корм. Для памяншэньня хваравітых адчуваньняў на адпавядаючы бок грудной сьценкі кладуць халодныя компрэсы або цёплыя ўкутаньні. Апошняе можна зьмяніць расьціраньнем 10 проц. гарачым сьпіртам. Палепшаньне страваваньня дасягаецца ўжываньнем карлсбадзкай солі, а таксама горкіх сродкаў у малых дозах. Пры запоры назначаюць каломэль. Калі высокая тэмпэратура трымаецца доўга, назначаюць антыдэбрын, саліцылава-кіслы натар. Для паскарэньня рассасваньня аксудоту

ўжываць розностайныя diuretica. Добрыя паслугі ў гэтым сэнсе аказвае наперсьцянка з можжававымі ягадамі.

1. *Rp.* Infus. Folior. Digitalis 2: 00,0

D. S. Па чайн. лыжцы раніцай і ўвечары. Ня больш. як на працягу 3-4 дзён.

2. *Rp.* Antifebrini 2,0
Sacchari lactici 3,0
Pulv. Rad. Althaeae—et.
Aq. distilli q. s.
Mt. El. D. S. Намазаць на корань языка.

3. *Rp.* Inf. Fruct. Iuniperi 15,0—100,0

D. S. Па чайн. лыжцы 2 разы ў дзень з кормам.

---

# VI. ХВАРОБЫ МАЧАВЫХ ОРГАНАЎ

## ВОСТРАЕ ЗАПАЛЕНЬНЕ НЫРАК—НЭФРЫТ

**Этыолёгія.** Востры нэфрыт можа быць выкліканы вельмі рознастайнымі шкоднымі фактарамі Траўматычныя пашкоджаньні ў вобласьці нырак і непасрэдна ў самых нырках, ахалоджваньне жывёлы, напр. пры транспартыроўцы ў адкрытых чыгуначных вагонах, неасьцярожная дача вострых раздражняючых матэрый (шпанскія муш-

кі, шкіпідар, экскракт мужчынскага папаратніка, мыш'як)—усё гэта можа выклікаць вострае запаленьне ныркавай тканкі. Паўторна нэфрыт разьвіваецца, пры некаторых вострых інфэкцыйных хваробах (бацылярная рожа, сэптыцэмія, чума), а таксама пры запаленьні страўнікова-кішачнага тракту і брушыны.

**Сымптомы.** Найбольш характэрнымі прызнакамі вострага нэфрыту зьяўляюцца ненормальныя ўласьціваосьці і склад мачы. У болшасьці выпадкаў запаленьне нырак пачынаецца з павялічэньня агульнай колькасьці мачы (паліўныя), прычым мача становіцца сьвятлей, і ўдзельная вага яе ніжэй. Поліўрыя атрымліваецца ў выніку ўсіленага прытоку крыві да нырак. У некаторых жа выпадках колькасьць мачы паменшаная, прычым інтэнсыўна ахварбована і мае высокую ўдзельную вагу. Хутка пасьля пачатку хваробы мача становіцца мутнаю. Мікроскопічнае дасьледваньне паасобных выпадкаў выяўляе ў ёй гіалінавыя цыліндры, ныркові эпітэлій, крывяныя эпітэліяльныя і зярністыя цыліндры, а таксама невялікую колькасьць чырвоных і бескалёрных крывяных цельцаў. Мача ў гэты час звычайна высокай удзельнай вагі, з вялікаю колькасьцю бялка. У цяжкіх выпадках наглядаецца памяншэньне мачааддзяленьня, прычым іншы раз справа можа дайсьці, да поўнае анурыі. З іншых сымптомаў нэфрыту кідаецца ў вочы зьменнасьць апэтыту,

а асабліва паяўленьне на розных мясцох цела ацёку. Тэмпэратура звычайна астаецца ў норме.

**Дыягноз.** Гостры нэфрыт можа аставацца не распазнаным, калі не дасьледваць мачы. Выяўленыя-ж зьмены мачы заўсёды даюць дастаткова падстаў для распазнаваньня хваробы нырак. Аднак, акрамя гэтага і іншыя даныя клінічнага дасьледваньня, а таксама і анамнэзу дапамагаюць правільнай дыягностыцы нэфрыту.

**Прогноз.** Калі востры нэфрыт разьвіўся пры якой-небудзь інфэкцыйнай хваробе, то звычайна быстра надыходзіць сьмерць ад урэміі, ацёку мазгоў ці лёгкіх. У больш спрыяючых выпадках востры нэфрыт можа перайсьці ў хранічную форму. Наогул пры прадказаньні магчымага канца паўторных нэфрытаў неабходна ўлічваць асноўную хваробу жывёлы.

**Лячэньне.** Корм павінен быць добраякасным лёгка пераўтраўным і мець магчыма менш бялкоў. Для гэтага патрэбна выключыць з рацыёну зерня, даючы хворым сьвіньням караньплоды, баўтушку з аўсянай мукі, або вотрубей, а пры магчымасьці зялёны корм. Памяшканьне для хворых павінна быць умерана-цёплым, чыстым, сьветлым, сухім. Для ўзмацненьня выдзяленьня мачы назначаюць унутр мачагонныя сродкі (воцытнакіслы калі). Урэгуляваньне дзейнасьці страўнікова-кішачнага тракту дасягаецца лёгкімі сла-

біцельнымі (каломель). Пры слабасьці сэрца даецца напярсьцянка, кофэін.

1. *Rp.* Coffeini N-Salicyl 1,0
Pulv. Fol. Digitalis 0,1
Sacchari Lactici 3.0
Mf. Pulv. Dtd. № III.

D. S. Па парашку ў дзень у выгляд. кашкі.

2. *Rp.* Kali Acetici 10,0
Aq. destill. 200 0
Mf. Sol D. S. Па сталов. лыжкі 2 разы ў дзень з кормам.

3. *Rp.* Natri Salicyl 2,0
Sacchari lactici 5,0

M. D. S. З мёдам намазаць на корань языка

4. *Rp.* Hydrarg. chlorati mit 1,0
Fol. Digitalis Pulv. 0,1
Sacchari lactici 3,0
Pulv. Rad. liquirit. et
Aq. destill. q s.
Mf. elect. D. S. Намазаць на корань языка.

## КАТАР МАЧАВОГА ПУЗЫРА—ЦЫСЦЫТ

**Этыолёгія.** У большасьці выпадкаў запаленьня мачавога пузыра інфэкцыйнага паходжаньня. Нярэдка патагоныя мікроорганізмы заносяцца ў мачавы пузыр праз мача-спускальны канал пры ўжываньні недастаткова чыстага катэтара. Роўным чынам катар мачавога пузыра можа разьвівацца ад сільных узьдзеяньняў на сьлізістую абалонку якіх-небудзь фізыка-хэмічных раздражальнікаў: удары і пашкоджаньні мачавога пузыра пры акушэрскай дапамозе, неасьцярожнае ўнутранае ўжываньне раздражняючых (шпанскія

мушкі) або бальзамічных і смалістых матэрый (скіпідар) і да т. п.

**Сымптомы.** Характэрным сымптомам катару мачавога пузыра зьяўляецца частае, якое суправаджаецца болямі, моча-спусканьне, прычым кожны раз выдзяляецца надзвычайна нязначная колькасьць мачы. Мача, якая выдзеляецца пры гэтым мутная, сільна афарбована, мае звычайны бялок і пры стаяньні дае апгадак.

**Дыягноз.** Клінічнае дасьледваньне і анамнэз даюць магчымасьць беспамылковага распазнаваньня.

**Прогноз.** Востры катар мачавога пузыра пры сваячасовым лячэньні звычайна праходзіць быстра. Пры адсутнасьці-ж лячэньня ён можа перайсьці ў хронінны катар, які цяжка паддаецца лячэньню.

**Лячэньне.** Неабходна ўнікаць усякай празьмернай катэтэрызацыі і захоўваць пільную чыстату пры ўжываньні адпавядаючых інструмэнтаў. Корм павінен быць неураздражняючым, лёгка ператраўным, добрай якасьці. Па магчымасьці належыць даваць больш караньплодаў і зеляніны. Для ўнутранага лячэньня ўжываюць дызэнфэцыруючыя сродкі (саліцылавую кіслату, салол, уротропін, лісты мядзьведжых ягад і т. д.). У выпадках зацяжнага цысцыту добра дзейнічае

прамываньне пузыра дэзынфэцыруючымі вяжучымі мэдыкамэнтамі: 1-2 проц. раствор борнай кісlаты, танін і інш.

1. *Rp.* Natri Salicyl 2,0
Sacchari lact. 5,0
M. D. S. На адзін прыём ў выглядзе кашкі

2. *Rp.* Urotropini 1,0
Aq. destill. 5,0
M. D. S. На адзін прыём ў корм. Паўтарыць на працягу 2-3 сутак.

3. *Rp.* Acidi Borici 2,0
Aq. fontanae 100,0
Mf. Sol.
D. S. Для прамываньня мачавога пузыра.

4. *Rp.* Resorcini 3,0
Aq. fontan. 100,0
M.f. Sol. D. S. Для прамываньня мачавога пузыра.

5. *Rp.* Inf. Fol. Uvae Ursi 5,0-100,0
D. S. На адзін прыём у корм.

---

## VII. ХВАРОБА ОРГАНАЎ РУХУ

### ЦЯГЛІЧНЫ РАМАТУС

**Этыолёгія**. Часьцей за ўсё цяглічны раматус наглядаецца восеньню і вясной. Момантамі абумаўліваючымі разьвіцьцё гэтай хваробы зьяўляецца: утрыманьне жывёлы ў дрэнна абсталяваных сьвінарніках (вільгаць, недахват сьвятла і паветра, цэмэнтныя падлогі), нечаканае дзеяньне халоднага і вільготнага паветра, скразьнякоў.

рэзкая зьмена тэмпэратуры. Непасрэднаю-ж прычынай зьяўляецца інфэкцыя, або інтоксыкацыя. Нам прышлося бачыць у аднэй гаспадарцы захворваньне сьвіньней раматусам пасьля зробленай супроцьчумнай прышчэпкі.

**Сымптомы.** Характэрным прызнакам цяглічнага раматусу зьяўляецца расстройства рухаў. Хворыя больш ляжаць, закапаўшыся ў падсьцілку, і калі іх прымушаюць падняцца—яны пішчаць, неахвотна паднімаюцца і хутка зноў кладуцца. З цягам часу хада жывёл становіцца ўсё больш і больш напружанаю, атрымоўваецца хісткасьць заду і ў рэзультаце яны зусім ня могуць уставаць. У невялікай колькасьці выпадкаў акрамя таго наглядаецца павышэньне тэмпэратуры.

**Дыягноз.** Анамнэз і клінічнае дасьледваньне хворай жывёлы робяць няцяжкім правільнае распазнаньне цяглічнага раматусу.

**Прогноз.** Хвароба звычайна працякае востра і працягваецца 5 8 дзён. Іншы раз хвароба прымае зацяжны характар, які вельмі цяжка паддаецца лячэньню. Увогуле працягласьць цяглічнага раматусу і прадсказаньне пры ім галоўным чынам залежаць ад своечасова пачатага лячэньня.

**Лячэньне.** З прычыны таго, што значная колькасьць жывёл захворвае цяглічным рамату-

сам пры стойлавым утрыманьні, то на гэты бок і патрэбна зьвярнуць раней за ўсё самую сур'ёзную ўвагу. Сьвінарнікі не павінны быць халоднымі, вільготнымі, з скразьнякамі. На цэмэнтную падлогу наслаць драўляныя краты (шчыты), на якія ў вялікай колькасьці павінны накласьці чысты подсьціл. Жывёл не патрэбна выпускаць з сьвінарніка на вільготнае, халоднае надвор'е, а таксама патрэбна ўнікаць вільготныя балоцістыя пашы. Корм павінен быць лёгка пераўтраўным і добрай якасьці. З мэдыкамэнтаў добрыя паслугі аказвае ўжываньне раздражняючых лятучых уціраньняў (сьпіртавыя растворы, скіпідару, камфара і гарчычнае масла, ці нашатырны сьпірт). Вельмі добра дзейнічае ўжываньне ўнутр саліцылавай кіслаты і яе прэпаратаў.

1. *Rp.* Natri Salicyl. 3,0
D. t. D. № IV.
S. Па два парашкі на дзень з цукрам і мукою ў выгляд. кашкі.

2. *Rp.* Ol. Terebinthinae 5,0
Trae capsiti 10,0
Spirit. camphor. 70,0
Mf. S. Для расьціраньняў.

3. *Rp.* Ol. Hyastiami 40,0
Ol. camphorae 20,0
Liq. ammon. cauct. 10,
M. f. lin. D. S. Для расьціраньняў.

## РАДЗІЛЬНАЯ ГАРАЧКА.

**Этылёгія**. Прычына звычайна раптоўнага зьяўленьня пасьля апаросу радзільнай гарачкі ня высьветлена. Як відаць, часьцей за ўсё гэтае захворваньне сустракаецца ў пародзістых сьвінаматак.

**Сымптомы.** У пачатку хваробы сьвінаматкі мала ядуць, больш ляжаць, хада ў іх становіцца хісткаю. Праз некаторы час наступае паралюш заду, дзякуючы чаму жывёлы ляжаць ў паўбаковым становішчы з напалову сагнутымі пад жывот нагамі, праяўляючы поўную абыякавасьць да народжаных ад іх парасят. Вочы бываюць часамі закрыты, нібы жывёла сьпіць. Сэкрэтарная дзейнасьць малочных залоз спынена, вымя цьвёрдае навошчуп. Тэмпэратура цела 40-41,5. Дыханьне становіцца глыбокім і саправаджаецца стогнамі. З пахвы выдзяляецца белаватая сьлізь. Дзейнасьць страўніка і кішок паніжаецца, у выніку чаго наглядаецца запор.

**Дыягноз**. Анамнэстычныя даныя, адсутнасьць ліхарадкі, паралюш падобны стан у непасрэднай сувязі з родамі, даюць дастаткова апоры для пастаноўкі правільнага дыягнозу.

**Прогноз.** У большасьці выпадкаў радзільная гарачка праз 3-5 дзён канчаецца выздараўленьнем. Іншы раз разьвіваюцца агульныя паралюшы, тэмпэратура падае і наступае сьмерць сьвінаматкі.

**Лячэньне:** Лячэньне—сымптоматычнае. Пры запоры ўжываюць слабіцельныя сродкі: сабур, каломель, ужываюць клізмы з цёплай вады. Для ўзбуджэньня назначаюць унутр сьпірт, падскурна—кофэін і камфару.

1. *Rp.* Aloes pulv. 5 0
Sacchari lact. et
Aq. destill. q. s.
Mf. Elect. D. S. Слабіцельнае. Намазаць на корань языка.

2. *Rp.* Hydrarg Chlorati mit. 4,0
Melis crudi—25,0
M. D. S. На 1 прыём Слабіцельнае.

3. *Rp.* Coffeini N-Sacicyl 1.0
Aq. destill. 5,0
M. D. S. Падскурна. Адзін прыём.

## ПАНАРЫЦЫЯ.

**Этыолёгія.** Панарацыяй называюць гнойнае запаленьне скуры і падскурнай клетчаткі ў вобласьці пярэдняй часткі венчыка і ў міжкапытнай шчыліне. Хвароба часьцей за ўсё сустракаецца ўлетку і ўвосень, і наглядаюцца нярэдка адначасова ў многіх жывёл у табуне. Прычынай гэтай хваробы звычайна зьяўляецца удары, скрабіны і параненьні скуры на венчыку, або міжкапытнай шчыліны, у выніку чаго атрымліваецца траўматычная інфэкцыя. Апошняй асабліва спрые бруднае ўтрыманьне станкоў у сьвінарніку.

**Сымптомы.** Прызнакам панарыцыі, які кідаецца ў вочы, зьяўляецца кульганьне, якое паступова ўзмацняецца, а таксама гарачае навошчуп і адчувальнае апуханьне веньчыка і пятачнай вобласьці. Жывёла стараецца больш ляжаць, у час-жа руху яна або зусім не наступае на хворую канцавіну, або толькі зьлёгку абапіраецца. Праз 6-7 дзён пасьля зьяўленьня кульгавасьці на якім-небудзь вучастку венчыка, або міжкапытнай шчыліны разьвіваецца нарыў, які праз некаторы час ўскрываецца.

**Дыягноз.** Няцяжкае распазнаваньне панарыцыі ўтвараецца пільным клінічным дасьледваньнем жывёлы.

**Прогноз.** Прадказаньне трэба рабіць асьцярожна, з прычыны магчымасьці ускладненьняў. У большасьці выпадкаў наступае выздараўленьне.

**Лячэньне.** У сьвежых выпадках панарыцыі, успалены вучастак рэкомэндуецца змазваць настойкай ёду, іхтыолавай мазьзю, або ж накласьці на яго вільготную дызэнфэкцыруючую павязку. У іншых выпадках зьвяртаюцца да хірургічнага ўмяшаньня. Выздараўленьне наступае праз 2—3 тыдні.

1. *Rp.* Ichthyoli 5,0
   Vaselini fl. 50,0
   Mfunq. D. S. Для змазваньня пашкоджанага месца

2. *Rp.* T-rae Jodi 5,0
   D. S. Змазаць успалены вучастак.

3. *Rp.* Sal. Creolini 3%
   D. S. Абмываць параненае месца.

## VIII Хваробы скуры

### ЧЫРВАНЬ СКУРЫ ЭРЫТЭМА.

**Этыолёгія.** У першы раз эрытэма разьвіваецца пад уплывам мэханічных (удары, ўколы, трэньне хэмічных востра-раздражняючых матэрый лятучыя маслы, мінэральныя кіслоты, шчолачы і інш.) і тэрмічных (апёк, абмарожваньне) раздражняльнікаў. Паўторна эрытэму можна наглядаць пры агульных інфэкцыйных хваробах і бацылярная рожа, сэптыцэмія, чума і яшчур.

**Сымптомы.** Чырвань скуры паяўляецца то ў выглядзе дробных плямак вялічынёю з чачавіцу, то ў форме больш вялікіх пачырванеўшых вучасткаў. У некаторых выпадках разьвіцьцё эрытэмы спраўваджаецца свёрбам, прычым пашкоджаныя вучасткі скуры крыху хваравіты.

**Дыягноз.** Хутка пераходзячы характар захворваньня, адсутнасьць ацёку і сільнага лушчэньня, зьнікаваньне чырвані пры націсканьні пальцам і аднаўленьне яе пасьля спыненьня націсканьня — даюць магчымасьць беспамылкова распазнаваць эрытэму.

**Прогноз.** Прадсказаньне спрыючае.

Лячэньне. Пры эрытэме, якая спраўваджаецца сільным сьвёрбам ці хваравітасьцю скуры, пасьля ўстанаўленьня прычын ўжываюць халодныя компрэсы з бураўскага раствору або 2%

**сьві цовай вады, падсушваючыя мазі, а таксама ўжываць прысыпкі вокісам цынку, талькам, крухмалам і інш.**

1. *Rp.* Zinci oxydati 10 0
   Talçi veneti 20,0
   Glycerin 10,0
   M. D. S. Знадворнае. Вадкая пудра.

2. *Rp.* Zinci oxydati 10,
   T-rae Salici 2,0
   Arungi Porti Bens 18,0
   M. D S. Паста (знадворнае).

3. *Rp.* Zinci oxydati
   Amyli tritici -aa 25,0
   Lanolin
   Vaselini fl aa 25,0
   M. D. S. Паста Lassara.
   Для абароны скуры ад знадворных пашкоджаньняў.

4. *Rp.* Amyli tritici
   Zinci oxydati aa 50,0
   M. D. S. Прысыпка.
   Для прыпудрываньня скуры.

## КРАПІЎНІЦА

**Этыолёгія.** Крапіўніца становіць сабою захворваньне скуры, якое характэрызуецца раптоўным зьяўленьнем рознастайнай велічыні плоска-круглых пузыркоў, якія звычайна на працягу кароткага часу зьнікаюць. Нярэдка гэтае захворваньне атрымліваецца пад уплывам раздражненьня скуры хэмічнымі матэрыямі: сок пякучай крапівы, укусы казявак (камары, пчолы, восы, чмялі), некаторыя мэдыкамэнты: скіпі-

дар, карболавая кіслата і інш. Акрамя таго, крапіўную высыпку могуць выклікаць мэханічныя ўзьдзеяньні на скуру—трэньне, пачухваньне. Паўторна крапіўніца часамі наглядаецца пры вострым катары страўніка і кішак, бацылярнай рожы і інш.

**Сымптомы**. У розных вучастках скуры зьяўляюцца напоўненыя вадкасьцю пузыркі, якія пры падсыханьні аказваюцца афарбаванымі ў чырвоны колер. Папулы, якія атрымліваюцца, пачынаюць бляднець у цэнтры і маюць навакол сябе чырвоны абадок. Іншы раз перад высаханьнем пузыркоў у сьвіней растрайваецца страваваньне, разьвіваецца слабасьць і павышаецца тэмпэратура.

**Дыягноз**. Распазнаньне робіцца шляхам клінічнага дасьледваньня хворай жывёлы.

**Прогноз**. Прадказаньне цалкам залежыць ад прычын, якія абумовілі крапіўніцу. Пры магчымасьці ўстараненьня іх яно спрыяючае.

Лячэньне. У першую чаргу неабходна ўстараніць прычыну, акая выклікала захвораваньне. Калі крапіўная высыпка ўзьнікла ў сувязі з расстройствам страўнікова-кішачнай дзейнасьці, то галоўная ўвага павінна быць зьвернута на ўрэгульваньне дыэты, на ўстараненьме з рацыёну шкодна дзейнічаючых

кармоў. У такіх выпвдках нярэдка прыходзіцца назначаць слабіцельныя, або дэзынфэцыруючыя сродкі: рыцынавае масла, каломель, сярэднія солі, саляную кіслату, салол, саліцылавую кіслату і інш. Для пашкоджаных вучасткаў скуры можна рэкомэндаваць абмываньне халоднай вадою і дэзынфэкцыруючымі растворамі, а таксама змазваньне дэзынфэкцыруючымі мазямі.

1. *Rp.* Sal. çarol. fact. 100,0
   Pulv. Rad. Gentjanae 30,0
   MfPulv. D. S. Па чайнай лыжцы 2 разы ў дзень з кормам.

2. *Rp.* Acid. Muriat dil. 60 0
   D. S. Па аднэй чайнай лыжцы з кормам

3. *Rp.* Acidi Carbolici 2,0
   Ghloral Hydrati 5,0
   Spirit. vini 200,0
   M. D. S. Абмываньне скуры пры сьвёрбе.

4. *Rp.* Sololi 1,0
   D. t. D. № III
   S. Па парашку 2 разы ў дзень.

5. *Rp.* Ung. Zinci Benzoici 10,0
   Adipir lanae 15,0
   Acidi carbol. (5%)—20,0
   Mentholi 0,5
   M. f. Ung. D. S. Ахаладжваючая мазь.

## РОЖЫСТАЕ ЗАПАЛЕНЬНЕ СКУРЫ

**Этыолёгія** Рожыстае запаленьне скуры становіць сабою ранавае інфэкцыйнае захворваньне. Яно разьвіваецца ў выніку ўкараненьня праз markdown рознастайнага роду ранавыя адтуліны рожыстага стрэйтакоку.

**Сымптомы.** Наглядаецца часьцей за ўсё ў вобласьці галавы і шыі. На скуры зьяўляюцца ярка ружавыя плямы, апошнія ў даных выпадках выяўляюцца рэзка абмежаванымі і ня маючымі нахілу да павялічэньня сваіх разьмераў, а ў другіх—гэтыя плямы, распаўваючыся, ахапляюць значныя плошчы скуры. Пры ашчупваньні пашкоджаных месцаў скура гарачая, хваравітая і зьлёгку апухшая. Тэмпэратура жывёл павышана, апэтыт уменшаны. У далейшым чырвань плям памяншаецца, іх колер прымае сіняватае, а потым жоўтаватае адценьне, хваравітасьць і прыпухласьць паступова прападае.

**Дыягноз**. Распазнаваньне хваробы незаўсёды бывае лёгкім, бо рожыстае запаленьне скуры можна зблытаць з эрытэмай або экзэмай. Належыць больш пільна зьбіраць анамнэз і зрабіць клінічнае дасьледваньне пацыента.

**Прогноз.** Пры правільным ходзе хваробы жывёлы праз 8-10 дзён звычайны выздараў-

ліваюць. У цяжкіх выпадках магчыма сьмерць галоўным чынам у выніку септыцэміі.

**Лячэньне.** Каб канец запаляльнага процэсу быў спрыяючым, можна ўжываць холад, сьвінцовую воду або бураўскі раствор. У пачатку хваробы з посьпехам карыстаюцца настойкай ёду і рознымі прысыпкамі: дэрматол, ёдоформ і інш. Іхтыолавая, рэзарцынавая і салідылавая мазі таксама аказваюць іншы раз добрую паслугу.

1. *Rp.* Ichthioli lanocin. aa 10,0
M. f. Ung. D. S. Знадворнае. Змазваць пашкоджанае месца.

2. *Rp.* T-rae Jodi 5,0
D. S. Змазваць пашкоджанае месца з мэтаю дэзынфэкцыі

3. *Rp.* Acidi Salicyl. 10,0
Glycerini
Aq. Borici—aa 50,0
M. D. S. Перад ужываньнем узбоўтваць.

4. *Rp.* Dermatoli 10,0
D. S. Знадворнае. Прысыпка.

## ГАНГРЭНА СКУРЫ.

**Этыолёгія.** Гангрэна скуры звычайна зьяўляецца ў выніку непасрэднага ўзьдзеяньня на скуру якіх-небудзь сільных фізыка-хімічных раздра-

жняльнікаў: траўмы, апёкі, абмаражваньне канцэнтраваныя кіслоты, шчолачы і да т. п. Акрамя таго, амярцьвеньне паасобных вучасткаў скуры сустракаецца пры рожы, сэптыцэміі і чуме.

**Сымптомы.** Гангрэна скуры або разьвіваецца павальна, прычым у гэтых выпадках у пачатку маюць месца ўспаляльныя процэсы, або вучасткі скуры нэкротызуюцца быстра. Гангрэнозныя вучасткі звычайна выяўляюцца ў выглядзе струпоў бурага колеру.

**Дыягноз.** Клінічнае дасьледваньне хворае жывёлы дае дастаткова падстаў для распазнаваньня хваробы.

**Прогноз.** Прадказаньне ў выпадках невялікіх пашкоджаньняў і своечасова пачатага лячэньня спрыяючае. У выпадках-жа значных пашкоджаньняў прадказаньне павінна быць асьцярожным.

Л я ч э н ь н е. Хворых належыць трымаць у чыстаце, чаму раней за ўсё неабходна паклапаціцца аб чыстым прасторным, з вялікаю колькасьцю мяккай падсьцілкі памяшканьні. Пашкоджаныя вучасткі рэкомэндуецца змазваць падсушваючымі і разам з тым дэзынфэкцыруючымі мазямі: цынкавай, ёдаформенай, карболавай і борнай. Ня рэдка бывае лепш, калі гангрэнозныя вучасткі (струпы) выдаліць нажом і атрыманыя

язвы лячыць тымі-ж дэзынфэкцыруюча-падсушваючымі сродкамі.

1. *Rp.* Zinci oxydati 10,0
Vaselini fl. 100,0
MfUng. D. S. Знадворнае. Змазваць пашкоджаныя вучасткі скуры.

2. *Rp.* Acidi Carbolici puri 10,0
Vaselini flavi 100,0
MfUng. D. S. Знадворнае. Ужываюць як папярэдняе.

3. *Rp.* Jodoformii 5,0
Adepis Suili — 50,0
MfUng.D.S. Знадворна.

## ВОШЫ.

**Этыолёгія.** Паяўленьне ў сьвіней вошай зьвязана з утрыманьнем жывёл у брудных, дрэнна абсталяваных сьвінарніках, з дрэнна, наогул, пастаўленым доглядам за імі, з дрэнным кармленьнем, якое вядзе да схуданьня жывёлы.

**Сымптомы.** Улюбёнымі месцамі лёкалізацыі вошай зьяўляюцца сьпіна, шыя, корань хваста і ўнутраны бок бёдраў, і ў выніку вялікага сьвёрбу сьвіньні труць пашкоджаныя вошамі месцы аб розныя цьвёрдыя прадметы, што нярэдка абумоўлівае сільнае раздражненьне, запаленьне і раненьне скурных пакрыцьцяў.

**Дыягноз.** Беспамылковае распазнаваньне забясьпечваецца знахаджэньнем вошай.

**Прогноз.** Прадказаньне пры адпавядаючым лячэньні спрыяючае.

Лячэньне. Раней за ўсё неабходна палепшыць умовы ўтрыманьня і кармленьня жывёл і зрабіць старанную чыстку сьвінарніка. Для зьнішчэньня вошай на жывёле рэкамэндуецца абмываць яе 2-3-проц. растворам крэоліну, а таксама націраньне некалькіх вучастаў скуры серка-іртутнаю мазьзю, экстрактам з далмацкага парашка, сумесьсю газы з маслам, крэолінавым ліныментам і перуванскім бальзамам са сьпіртам. Адвар табаку, які ўжываецца некаторымі з гэтаю мэтаю (1: 20—25) належыць ўжываць асьцярожна з прычыны магчымага атручваньня нікатынам. У мэтах поўнага зьнішчэньня вошай ужываньне антыпаразытных сродкаў належыць паўтараць праз 4-5 дзён некалькі разоў.

1. *Rp.* Sol. Creolini 3%
   D. S. Знадворнае. Абмываць пашкоджаныя вучасткі скуры.
2. *Rp.* Ol Petrolei
   Ol. olivari aa 50,0
   M. D. S. Знадворнае
   Уціраць у шэрсьць.
3. *Rp.* Creolini
   Sapo Viridis aa 10,0
   Spir. denatur. 70,0
   Mflin D. S. Ужываць як папярэдняе.
4. *Rp.* Ext. Nosset. 20,0
   D. S. Знадворнае.
5. *Rp.* Ung. Hydr. cinerei 10.0
   D. S. Знадворнае. Намазаць на некалькіх мясцох скуры.

## ЭКЗЭМА.

**Этыолёгія.** Сустракаецца звычайна ў парасят і вельмі рэдка ў дарослых сьвіней. Як відаць у паходжаньні экзэмы мае значэньне дрэнны догляд і ўтрыманьне у брудных сьвінарніках. Ня рэдка экзэма разьвіваецца ў зьнясіленых і аслабленых якімі-небудзь хранічнымі хваробамі жывёл.

**Сымптомы.** На розных мясцох цела, на бёдрах, на грудзёх, на жываце, а часамі на ўсім целе зьяўляецца пузыркападобная, выклікаючая сьвёрб высыпка. Вадкасьць пузыркоў вельмі хутка становіцца гнойнай. Пасьля лопаньня пузыркоў на язвачках з чырвоным мокнучым дном утвараюцца коркі, якія часамі ад бруду маюць цёмна-буры, або чорны колер. Апэтыт у хворых жывёл расстрайваецца і інш раз заўважаецца павышэньне тэмпэратуры.

**Дыягноз.** Пры распазнаваньні экзэмы неабходна мець на мэце, што сымптомы каросты часта бываюць аднолькавымі з сымптомамі экзэмы. Для адрозьніваньня ад каросты рэкамэндуецца пры клінічным дасьледваньні хворай жывёлы ўжываць лупу, якая ў выпадках экзэмы пакажа адсутнасьць у пацыента, які дасьледуецца, кляшчэй каросты.

**Прогноз.** Прадказаньне ў не запушчаных выпадках экзэмы наогул спрыяючае. Аднак, нават

у вельмі лёгкіх і быстра праходзячых пры лячэньні выпадках, экзэма часта дае рэцыдывы, калі ўжо маюць месца глыбокія зьмяненьні скуры, прагноз належыць рабіць асьцярожна.

Лячэньне. Хворым жывёлам павінна быць дано сухое, чыстае памяшканьне, належны догляд і не раздражняючая лёгка ператраўная ежа. Перад ужываньнем рознага роду лекарственых матэрый неабходна ачысьціць скуру ад бруду, а таксама выдаліць з яе струпы і коркі, што робіцца асьцярожным абціраньнем пашкоджаных вучасткаў скуры ватаю, прапітанай маслам, або 3-проц. растворам борнай кіслаты, 1-2 проц. растворам таніну, бураўскім растворам і да т. п.. Для ачысткі скуры, якая ўсьцілае вушную ракавіну, пасьля папярэдняга прамываньня, напрыклад растворам крэоліну, належыць выдаляць м сы сэкрэту, якія там скапіліся, пінцэтам або зондам, канец якіх для гэтага абкручваецца ватаю, прапітанаю маслам або тым-жа крэолінавым растворам. Пасля ачысткі скуры карыстаюцца рознага роду дэзынфэкцыруюча-падсушваючымі мазямі, або масьлянымі матэрыямі, прычым стараюцца ўнікаць абмываньня пашкоджаных месц мыльным растворам, а таксама вадою. З мазяй, якія ўжываюцца, найбольш папулярнымі зьяўляюцца цынкавая мазь, сьвінцовая мазь з танінам, цынкавая паста і тумілавая паста. Пры сільным сьвёрбе, а асабліва

пры мокнучай экзэме рэкомэндуецца іхтыолавая паста, змазваньне 10-проц. растворам ляпісу і кокаінавая мазь. Нярэдка добра дзейнічаюць высушваючыя і вяжучыя сродкі, якія ўжываюцца ў форме парашкоў. З ужываньнем пры экзэме прысыпак лепшымі зьяўляюцца вокісь цынку, вуглякіслы сьвінец, тальк, рознастайныя прэпараты вісмута, айроль, дэрматол, а таксама крахмал, мука і парашок з дубовай кары.

1. *Rp.* Zinci Oxydat 10,0.
   T-rae Salicae 2,0
   Adeps Bensoat. 28,0
   M f. Цынкавая паста.
   Знадворнае.

2. *Rp.* Ichthy li.
   Zinci Oxydati
   Amyli aa 12,0
   Vaselini 25,0
   M. f. Ухтыолавая паста

3. *Rp.* Tremenoli ammon. 1,0
   Zinci oxydati 5,0
   Talci veneti 5,0
   Ol. Ricini 25,0
   M. f. Паста. D. S.

4. Acidi Salicyl. 2,0
   Ol. Ricini 8,0
   Ol. olivari 100,0
   M. f. al. D. S. Знадворнае.

5. *Rp.* Bismut Subnitrici
   Dermatoli — aa 10,0
   Talci 100,0
   M. D. S. Прысыпка.

## СТРЫГУЧЫ ЛІШАЙ

**Этыолёгія.** Стрыгучы лішай выклікаецца асаблівым грыбком, які ўкараняецца ў скуру (Herpes Tonsurans). Заражэньню спрыяе ўтрыманьне жывёл у душных, сырых, якія дрэнна

вычышчаюцца, сьвінарніках, а таксама недастатковае іх жыўленьне.

**Сымптомы.** Часьцей за ўсё стрыгучы лішай паяўляецца ў вобласьці грудзей, сьпіны і знадворнай паверхні голені. У такіх мясцох зьяўляюцца адзінкавыя чырвонаватыя, круглаватыя, велічынёю прыблізна з 10 капеечную манэту плямы, абкружаныя больш чырвоным, некалькі узьнятым кальцом, якое пакрыта дробнымі пузыркамі У цэнтральнай частцы лішайных плям скура, за выключэньнем невялічкага лушчэньня. зусім нармальна. Пузыркі ж кальца якія абкружаюць бурыя коркі, навакол якіх утвараюцца новыя пузыркі Шчаціна на пашкоджаных мясцох параўнальна лёгка вырываецца, але выпадае рэдка.

**Дыягноз.** Для дакладнага распазнаваньня хваробы патрабуецца мікроскопічнае дасьледваньне, якім і выяўляецца ўзбуджальнік стрыгучага лішая.

**Прогноз.** Прадказаньне спрыяючае.

Лячэньне. Першапачаткова неабходна адзяліць хворых ад здаровых і грунтоўна вычысьціць і прадэзынфэцыраваць сьвінарнікі. Для падрыхтоўкі да мэдыкамэтнага лячэньня належыць пасьля выстрыганьня шчаціны на пашкоджаных мясцох прамыць зялёным мылам лішайныя плямы. Самае мэдыкамэтнае лячэньне

эводзіцца да неаднаразовага ўжываньня якіх-небудзь дэзынфэкцыруючых сродкаў: расьлінныя маслы з крэолінам, серка-іртутная мазь, сулемавы сьпірт і т. п.

1. *Rp.* Acid. Salicyl. 5,0
Spir. vini 10,0
M. D. S. Знадворнае. Уціраць у паражаныя месцы скуры.

2. *Rp.* Hydr. chlor. corros 0,5
Aether
Spir. vini — aa 100,0
D. Sub. signo veneni s.
Сулімовы сьпірт для змазваньня абмежаваных вучасткаў скуры.

3. *Rp.* Acidi Salicyl. 10,0
Sulfur depurat 30,0
Sapo viridis
Ol. Ricini — aa 50.0
Aturus Porci 200
M.f. Ung.D.S. Сулімовы сьпірт для змазваньня абмежаваных вучасткаў скуры

4. *Rp.* Acidi Salicyl. 5.0
Ol. Rusci 25.0
Sapo viridis 150,0
M. D. S. Знадворнае. Уціраць на працягу 3 дзен па 1 разу ў дзень.

## СЬВЁРБАВАЯ КАРОСТА.

**Этыолёгія.** Сьвёрбавая кароста выклікаецца кляшчом Sorcoptes Skebiei. Захворваюць пераважна маладняк і парасяты. Захворваньню садзейнічае ўтрыманьне жывёл у брудных сьвінарніках, недастатковае жыўленьне і аслабляючыя організм хваробы.

**Сымптомы.** Найбольш часта сьвёрбавая кароста лёкалізуецца ў вобласьці галавы, пашкоджваючы скуру каля вачэй, вушэй і шчок. У гэтых мясцох, а пасьля і на скуры шыі, тулаве, унутранай паверхні бёдраў і г. д.. Спачатку зьяўляецца чырвань, струпападобная луска і пузыркі, пры гэтым пашкоджаныя вучасткі, абумоўліваючы энэргічнае чуханьне жывёлы, вельмі сільна сьвярбяць. Шчаціна вылазіць, утвараюцца чырвонавата-бурыя коркі.

**Дыягноз.** Распазнаваньне робіцца на падставе клінічнага дасьледваньня і знаходжаньня з дапамогаю лупы ў пашкоджаных вучастках скуры кароставых кляшчэй.

**Прогноз.** Пры адсутнасьці лячэньня хвароба набывае зацяжны характар, абумоўлівае затрымку разьвіцьця, зьнясіленьне і падзеж.

Лячэньне. Як профіляктычнае мерапрыемства—адзяленьне хворых ад здаровых, а таксама ачыстка і дэзынфэкцыя сьвінарнікаў абавязковы. Для лячэньня рэкомэндуецца выдаліць цёплаю вадою пры дапамозе шчотак, або драўляных скрабніц коркі і пасьля гэтага ўціраць супроцькароставыя сродкі. Пры гэтым, каб унікнуць атручваньняў супроцькароставыя сродкі ня трэба ўціраць адначасова ў скуру ўсяго цела, а належыць спачатку нацерці адзін бок цела, а праз 10-12 гадзін другі. У некаторых

выпадках сьвёрбавой каросты, калі пашкоджаны тулава і ногі,—добра дзейнічаюць цёплыя ванны з сернай печані.

1. *Rp.* Liq. Creosoli Saponati 50.0
Sapon Kalin venae. 100.0
Aq. fontan 800.0
M. f. lin. D. S. Уціраць адну палову, а праз 10 гадзін другую.

2. *Rp.* Ol. Carvi
Spir vini—aa 5,0
Ol. Ricini 75,0
M. f. lin. D. S. Знадворнае.

Creolini
Spir. vini — aa 50,0
M. D. S. Знадворнае.

## ЖАЛЕЗЬНІЧНАЯ КАРОСТА—ЖАЛЕЗЬНІЦА.

**Этыолёгія.** Жалезьніца выклікаецца чарвякападобным мікроскопічных разьмераў кляшчом Acarus, або Demoxus foliculorum які звычайна глыбока ўядаецца ў скуру, пранікаючы ў скурныя залозы. Заражэньне гэтым кляшчом нярэдка адбываецца пры непасрэдным сутыканьні здаровых жывёл з хворымі, чаму асабліва садзейнічаюць цесныя сьвінарнікі.

**Сымптомы.** Часьцей за ўсё на вучастках з тонкаю скураю (каля пятачка, на шчоках) на ніжняй сьценцы жывата, на ўнутранай паверхні нагі і да т. п. утвараюцца невялікія з маркай вадкасьцю, якая зьмяшчае ў сабе вялікую колькасьць кляшчоў. Пасьля ўскрыцьця гэтых

вузялкоў атрымліваюцца язвы, якія цяжка зажываюць: шкура ў пашкоджаных мясцох робіцца бясшэрснай і трацiць сваю элястычнасьць.

**Дыягноз**. Распазнаваньне жалезьніцы надзвычай цяжкае. Надзейны дыягноз звычайна можна паставiць толькі пры мікроскапічным дасьледваньні зьмесьціва вузялкоў.

**Прогноз**. Захворваньне мае зацяжны характар і ў большасьці выпадкаў паддаецца лячэньню з цяжкасьцямі. У выніку гэтага прадказаньне можна лічыць няспрыяючым.

Лячэньне. Захварэўшых жывёл належыць зараз-жа адзяліць ад здаровых, а ў сьвінарніках зрабіць неаднаразовую дэзынфэкцыю. Для падрыхтоўкі хворых да мэдыкамэнтнага лячэньня патрэбна на пашкоджаных мясцох абстрыгчы валасы, абчысьціць скуру ад бруду і, расьсекшы скальпелем маючыяся вузялкі і пустулы, выдаліць ватным тампонам іх зьмесьціва. Пасьля такой падрыхтоўкі назначаюць розныя супроцькароставыя сродкі: ванны з 5-проц. сернавай печані, нацiраньнем мыльным сьпіртам, саліцылавым сьпіртам, або саліцылавым маслам і перувіанскім бальзамам у розных частках са сьпіртам або зялёным мылам, сулемаваю, або карболаваю мазьзю і ўціраньне гэтых сродкаў належыць паўтараць некалькі разоў з прамежкамі ў 6-7 дзён. Добрыя вынікі часамі атрымліваюцца пры прыкладаньні да пашкоджаных

вучасткаў на некалькі мінут ватных тампонаў, памочаных серавугляродам, і пры панясеньні пасьля гэтага фармалінавай пасты, пры чым такое лячэньне паўтараецца 3-5 разоў з прамежкамі ў 3-4 дні. Аднак, ня варта забываць, што жалезьніца патрабуе працяглага лячэньня і прыводзіць жывёл да зьнясіленьня, а таму ў цяжкіх выпадках лепш паклапаціцца аб своячасовым скарыстаньні сьвіней на мяса.

1. *Rp.* Acidi Salicyl. 4,0
   Ol. Olivarum 100,0

   M. D. S. Знадворнае. Для ўціраньня ў парачанае месца.

2. *Rp.* Jchthyoli 7,0
   Spir. vini 75,0

   M. D. S. Знадворнае.

3. *Rp.* Acidi carbol. puri 5,0
   Vaselini fl. 50,0
   M. f. Ung. D. S. Знадворнае.

4. *Rp.* Zinci oxydati 24,0
   Formalini 1,0
   Vaselini fl. 50,0

   M. f.!S. Паста. Знадворнае.

5. *Rp.* Flores Salfuris 100,0
   Calcaria usta 200,0
   Aq. fontanae 1000,0

   Гетую мешаніну добра пракіпяціць і ўціраць у скуру.

## ДОЗЫРОЎКА НАЙБОЛЬШ УЖЫВАЛЬНЫХ ЛЕКАРСТВАЎ СЬВІНЬНІ

*(па фармакалёгіі і рэцэптуры „Фрэнэра“).*

| Назва лякарственых матэрый | Дозы | | Заўвага |
|---|---|---|---|
| 1. Acid. hydrochloricum . | 1,0 | 2,0 | |
| 2. Acid. phosphoricum . | 1,0 | 2,0 | |
| 3. Acid. salicylicum . . | 2,0 | 5,0 | |
| 4. Aloë . . . . . . . . | 5,0 | 10,0 | Як слабіцельная доза |
| 5. Alumen . . . . . . | 1,0 | 2,0 | „пищеварит“ |
| 6. Acid. tanicum . . . | 1,0 | 2,0 | |
| 7. Ammonium bromatum | 2,0<br>5,0 | 5,0<br>10,0 | |
| 8. Ammonium chloratum | 1,0 | 2,0 | |
| 9. Antifebrinum . . . . | 1,0 | 2,0 | |
| 10. Bismutum subnitricum | 2,0 | 5,0 | |
| 11. Calcium phoshoricum | 3,0 | 10,0 | |

| Назва лякарственых матэрый | Дозы | | Заўвага |
|---|---|---|---|
| 12. Chininum . . . . . | 1,0 | 2,0 | |
| 13. Chloralum hydratum . | 5,0 | 10,0 | |
| | 10,0 | 20,0 | У клізьме |
| 14. Chloroformium . . . | 5,0 | 10,0 | |
| 15. Coffeinum Natro-benzoicum . . . . . . | 2,0 | 5,0 | |
| 16. Cortex chinae . . . . | 5,0 | 10,0 | |
| 17. Cortex Quercus . . . | 5,0 | 10,0 | |
| 18. Creolinum . . . . . | 2,0 | 4,0 | |
| 19. Cuprum sulfuricum . | 0,5 | 1,2 | |
| 20. Ferum pulveratum . . | 2,0 | 5,0 | |
| 21. Flores Cinae . . . . | 10,0 | 25,0 | |
| 22. Folia Digitalis . . . . | 0,2 | 1,0 | |
| 23. Fructus Anisi . . . . | 5,0 | 10,0 | |
| 24. Fructus Folniculi . . | 5,0 | 10,0 | |
| 25. Fructus juniperi . . . | 5,0 | 10,0 | |
| 26. Hydrargirum chloratum | 1,0 | 4,0 | |
| 27. Kalium bromatum . . | 2,0 | 10,0 | |
| 28. Liquor kali arsenicosi | 1,0 | 5,0 | |
| 29. Magnesium sulfuricum | 25,0 | 50,0 | |
| 30. Naftalinum . . . . . | 1,0 | 2,0 | |

| Назва лякарственых матэрый | Дозы | | Заўвага |
|---|---|---|---|
| 31. Natrium bicarbonicum | 2,0 | 5,0 | |
| 32. Natrium bromatum . | 2,0 | 10,0 | |
| 33. Natrium chloratum . | 2,0 | 5,0 | |
| 34. Natrium phosphoricum | 25,0 | 50,0 | |
| 35. Natrium sulfuricum . | 25,0 | 50,0 | |
| 36. Oleum Crotonis gtt . | 2 | 10 | |
| 37. Oleum jecoris Asell . | 50,0 | 100,0 | |
| 38. Oleum lini . . . . . | 50,0 | 100,0 | |
| 39. Oleum ricini . . . . | 50,0 | 100,0 | |
| 40. Oleum terebenthinae . | 5,0 | 10,0 | |
| 41. Opium . . . . . . . | 0,1 | 0,3 | |
| 42. Pulvis ipecacuannae . | 0,1 | 0,3 | |
| 43. Rad. Althaeae . . . . | 10,0 | 25,0 | |
| 44. Coffeinum natro-salicylicum . . . . . . | 2,0 | 5,0 | |
| 45. Rad. Colombo . . . | 5,0 | 10,0 | |
| 46. Rad. Gentianae . . . | 5,0 | 10,0 | |
| 47. Rhisoma veratri . . . | 1,0 | 4,0 | |
| 48. Sal. Carolini facticum | 2,0 | 5,0 | |
| 49. Sololum . . . . . . | 2,0 | 5,0 | |
| 50. Santoninum . . . . . | 0,5 | 2,0 | |

| Назва лякарственых матэрый | Дозы | | Заўвага |
|---|---|---|---|
| 51. Secalo cornutum . . | 2,0 | 10,0 | |
| 52. Semen lini . . . . . | 10,0 | 25,0 | |
| 53. Spirit. vini . . . . . | 10,0 | 25,0 | |
| 54. Stibium sulfuratum aurant . . . . . . . | 1,0 | 3,0 | |
| 55. Stibium sulfuratum nigrum . . . . . . | 2,0 | 5,0 | |
| 56. Sulfur sublimatum . | 1,0 | 3,0 | |
| 57. Tanalbinum . . . . . | 2,0 | 5,0 | |
| 58. Tanaformium . . . . | 1,0 | 5,0 | |
| 59. Tart. stibiatus . . . . | 0,2 | 0,5 | |
| 60. Tinct. opii simplex . | 10,0 | 30,0 | |
| 61. Tinct. strophanti . . | 2,0 | 5,0 | |
| 62. T-rae veratri albi . . | 0,5 | 2,0 | |
| 63. Urotropinnm . . . . | 2,0 | 5,0 | |
| 64. Veratrinum . . . . . | 0,01 | 0,03 | |

## ЗЬМЕСТ

III. Хваробы органаў крывязвароту



I. Хваробы органаў страваваньня

V. Хваробы органаў дыханьня.



VI. Хваробы мачавых органаў

---



